# Не забудзем!

25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Першы раз у новай гісторыі наш народ заявіў тады пра свае права.
Імперыя — калос на гліняных нагах. 100 гадоў таму, за 4 месяцы да пачатку Першай сусветнай вайны, хто мог падумаць, што каласальная Расія — ад Хельсінкі да Карса — праз 4 гады будзе ў развале?
І цяпер, калі ў паветры запахла новай вайной, Беларусь павінна памятаць страшныя ўрокі XX стагоддзя. Калі Беларусь пастановіць, яна збудуе свой еўрапейскі дом. Такі, які ў XX стагоддзі ўзвялі фіны, эстонцы, чэхі...
Цяжка было пачаць. А далей — цаглінка за цаглінкай.

## 25 / 03 / 1918






№ 11 (848) 19 сакавіка 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# АНШЛЮС КРЫМА

**Менш за 30 дзён заняло далучэнне Крыма. «Рэферэндум» правялі ў рэкордна кароткі тэрмін — 16 сакавіка. А 18 сакавіка ў Георгіеўскай зале Крамля была падпісана дамова.**
**На «рэферэндуме» ў Крыме «за» галасавала 97% выбарцаў. Нагадаем, што ў 1938 годзе на «плебісцыце» ў Аўстрыі за ўваходжанне ў склад Трэцяга рэйха галасавала 99% выбарцаў.**
**У сваёй прамове Пуцін-трыумфатар заявіў: «Разлічваю, што грамадзяне Германіі таксама падтрымаюць імкненне рускага свету, гістарычнай Расіі да аднаўлення адзінства».** **Старонкі 3—5.**

### Расследаванне

## Як забудоўваюцца «новыя Дразды»?

Там пасяліўся мільянер Шакуцін і трэнер Лукашэнкі Цяцерын. **Старонкі 8-9.**



### Здарэнні

## Як дзесяцікласнік нагрэў мінчукоў на візах

Сын багатых бацькоў вырашыў зарабіць. **Старонка 7.**



### Культура

## Таямніцы пісьменніцкага дома

Жыхары Маркса, 36 пра сваё жыццё. **Старонкі 10—11.**



### Лісты

## Дзяўчына, якая плача

З турмы на Акрэсціна піша Зміцер Дашкевіч. **Старонка 12.**



# Дзень Волі — 25 сакавіка




Арганізатары вулічнай акцыі на Дзень Волі спачатку разглядалі магчымасць яе правядзення ў нядзелю, 23-га. Але, падумаўшы, што гэта супадае з датай мясцовых выбараў, вырашылі адзначаць як заўсёды, 25-га.

Першапачаткова заяўка ў Мінгарвыканкам была пададзеная на шэсце па праспекце Незалежнасці: ад Акадэміі навук да Дома ўрада. Аднак гарадскія ўлады, ясная справа, такі мітынг у цэнтры горада забаранілі.

Заяўнікі тэрмінова перарабілі заяўку. Цяпер яны просяць ужо традыцыйны маршрут. Ад кінатэатра «Кастрычнік» (збор а 18 гадзіне) да плошчы Бангалор (мітынг а 19:30). На момант падпісання нумара ў друк адказу Мінгарвыканкама яшчэ не было. Аднак папярэднія гады дазвол давалі.

Дзень Волі святкуецца штогод 25 сакавіка. У 1918 годзе ў гэты дзень была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

**ЗП**

## Агульнанацыянальная дыктоўка — «Магутны Божа»

Палітолаг Уладзімір Падгол і кіраўнік інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алесь Ліпай выступілі з ініцыятывай адзначыць сёлетні Дзень Волі агульнанацыянальнай дыктоўкай. Тэкстам прапануецца зрабіць славуты вершы Наталлі Арсенневай «Магутны Божа».

«Першы раз мы пісалі агульнанацыянальную дыктоўку ў 2008-м годзе ў гонар 90-годдзя БНР. Пісалі ва ўсіх куточках зямной кулі, дзе толькі жылі беларусы», — адзначаецца ў звароце.

«Летась мы пачалі перапісваць Біблію ад рукі. І можа так стацца, што да 500-годдзя надрукавання Скарынам Псалтыра, у 2017-м мы перапішам Біблію. У гэтым годзе мы прапануем напісаць агульнанацыянальную дыктоўку па тэксце Арсенневай «Магутны Божа». Агульнанацыянальная дыктоўка можа стаць шчытом для абароны нашай мовы. Нашы словы, сказаныя і напісаныя разам, могуць стаць семем, якое прарасце любоўю да Беларусі ў душах нашых дзетак і ўнукаў. Наша супольная дэманстрацыя можа стаць агульнанацыянальнай малітвай, якую пачуе Бог. І стане магутным гімнам, які загартуе нашу волю дзеля абароны Айчыны».

# 1,3 кандыдата на месца

23 сакавіка адбудуцца **мясцовыя выбары**.

Паводле ацэнкі ўдзельнікаў ініцыятывы «Праваабаронцы за свабодныя выбары», кампанія па «выбарах» дэпутатаў мясцовых саветаў была «вельмі дэпалітызаванай», а працэс праверкі подпісаў за вылучэнне кандыдатаў «татальна закрытым».

Усе мясцовыя саветы ў краіне, як і нацыянальны сход, складаюцца з прадстаўнікоў адной палітычнай сілы — лукашэнкаўцаў. Арганізаванай апазіцыі ў саветах няма ад 1996 года.

У канцы 1990-х і на пачатку 2000-х грамадства яшчэ верыла, што на выбарах можна нешта змяніць. Калі прыйшло разуменне, што сістэма гэта выключае, стаўленне да ўсіх выбараў, акрамя прэзідэнцкіх, стала апатычным.

Тэлебачанне і радыё ў краіне таксама фактычна прыватызаваны лукашэнкаўцамі. А самае галоўнае, што выбарчыя камісіі складаюцца амаль з адных лукашэнкаўцаў, падлік галасоў арганізаваны такім чынам, што яго нельга праверыць.

Таму ўдзел насельніцтва ў выбарчых кампаніях ніякі. Скажам, на гэтых мясцовых выбарах у сярэднім на адно месца прэтэндуе 1,2—1,3 кандыдата. З навінак кампаніі можна адзначыць толькі тое, што паводле новага заканадаўства агітацыя за байкот выбараў цяпер забароненая.

**Мікола Бугай**



**Напярэдадні выбараў іранічныя графіці з’явіліся на смеццевых баках Мінска.**

### Ліст у Рэдакцыю

## Мінскіх студэнтаў прымушаюць датэрмінова галасаваць

Усіх сацыяльных педагогаў у студэнцкіх інэрнатах прымусілі асабіста запрасіць кожнага са студэнтаў на выбары, пры гэтым кожнаму выдаць паперку з запрашэннем. Сацыяльныя педагогі перадалі, што кіраўніцтва студэнцкага гарадка будзе адсочваць сітуацыю, каб усе прагаласавалі. Пры гэтым, як кіраўніцтва, так і супрацоўнікі інтэрната просяць "не зацягваць" і прагаласаваць датэрмінова. Датэрміновае галасаванне пачалося з 18 сакавіка.

Справа ў тым, што зараз ідзе падача заяваў на засяленне ў інтэрнаты на наступны навучальны год. Хутчэй за ўсё, за няяўку на выбары студэнтам будуць адмаўляць у месцы ў інтэрнаце. Пры гэтым, як і раней, на кожным выбарчым участку існуе «патрэбны» працэнт яўкі студэнтаў, за які адказвае кіраўніцтва, таму яны так і клапоцяцца, каб студэнты галасавалі.

«Я нават не ведаю гэтых кандыдатаў, — кажа студэнт БДУ Арцём. — Але не хачу падстаўляць кіраўніцтва, пайду, пастаўлю галачку і буду свабодны»

**Міхась Давыдаў, Мінск**

### Сцісла

**Даляр расце і расце**

Афіцыйны курс амерыканскай валюты абнаўляе рэкорды ледзь не штодня і па стане на сераду дасягнуў 9830 рублёў. У абменніках жа курс продажу вагаецца на ўзроўні 9880 рублёў, у інтэрнэт-крамах і на рынках — каля 10 тысяч рублёў.

**Лябедзьку — 15 сутак, Вінаградаву — 25**

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька асуджаны да 15 сутак арышту за правядзенне пікета ў падтрымку палітзняволеных Беларусі. За некалькі дзён да таго былі затрыманыя актывісты Павел Вінаградаў і Аляксандар Арцыбашаў. Першага пасадзілі на 25 сутак, другога — на 15 сутак.

**Бабруйскага блогера пакаралі за відэа**

Алега Жалнова аштрафавалі на 5,85 мільёна рублёў за апублікаванае ў Ю-Тубе відэа з прыёму ў мясцовага міліцэйскага начальніка.

**Памёр эканаміст Аляксандр Пачынок**

Расійскі эканаміст Аляксандр Пачынок, які займаў у мінулым пасады міністра па падатках і зборах, міністра працы і сацыяльнага развіцця, а таксама намесніка міністра фінансаў, памёр ва ўзросце 56 гадоў.

**Новы альбом Вольскага**

Выхад кружэлкі «Грамадазнаўства» запланаваны на 25 сакавіка, яна з’явіцца ў інтэрнэце. «Музычная канцэпцыя альбома — «нічога лішняга». Асноўны ўхіл зроблены на лірыку», — кажа Вольскі.

**ЯМ**

### Апытанне на nn.by

**Ці паспрабуе Расія далучыць усе краіны і рэгіёны, дзе гавораць па-руску?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 850 | 49% |
| Не | 299 | 17% |
| Хай паспрабуе! | 603 | 34% |

Усяго прагаласавала 1752

### Самае чытанае на nn.by за 12-18 сакавіка

1. Той самы расійскі «турыст» удзельнічаў у беспарадках у Рызе ў 2009-м, Данецку ў 2014
2. Усе інфармагенцтвы Расіі: «Расійскія касмічныя спадарожнікі падвергліся атацы з Украіны»
3. Украінцы выбілі расійскі дэсант з Арабацкай стрэлкі пры падтрымцы авіяцыі
4. Пабоішча ў Данецку: расійскія штурмавікі напалі на антываенны мітынг
5. Святлана Алексіевіч: Насоўваецца нешта страшнае і крывавае
6. Лукашэнка: Толькі ідыёт пасля падзей ва Украіне не зробіць адпаведных высноў
7. Тэлеканал СТВ лічыць перадачу Віцебска, Магілёва і Гомеля Беларусі незаконнай?
8. Размаўляй па-беларуску, каб заўтра не прыйшлі «вызваляць» цябе
9. Страшнае ДТЗ на трасе Мінск — Гродна: БМВ разарвала папалам
10. Лукашэнка прапануе Расіі размясціць у Беларусі дадатковыя самалёты ў адказ на крокі НАТА па Украіне

# Аншлюс Крыма

**Пуцін-трыумфатар** абвясціў аб далучэнні Крыма.

Гэтыя словы азначаюць, што Масква не мае намеру спыняцца на Крыме, а паспрабуе далучыць усе тэрыторыі, якія лічыць «рускім светам» і «гістарычнай Расіяй». Георгіеўская зала Крамля ў аўторак сустрэла Уладзіміра Пуціна авацыямі. Прэзідэнт Расіі ззяў. За два дні да гэтага ў Крыме прайшоў «рэферэндум». Па афіцыйных лічбах, за далучэнне да Расіі прагаласавала 97% крымчакоў.

«Калі Крым апынуўся ў іншай дзяржаве, Расія адчула, што яе абрабавалі. Крымчан перадалі з рук у рукі, як мех бульбы. Мільёны рускіх леглі спаць у адной краіне, а прачнуліся ў іншых. Рускі народ стаў самым вялікім падзеленым народам у свеце», — казаў Пуцін.

У выпадку з Крымам звяртае на сябе ўвагу, што Расія дзейнічала не так, як дагэтуль у Малдове і Грузіі, дзе былі створаныя марыянеткавыя, але фармальна незалежныя рэспублікі Прыднястроўе, Паўднёвая Асеціі і Абхазія. Гэтым разам ні пра якую незалежнасць ніхто не казаў. Крым становіцца адным з суб’ектаў Расійскай Федэрацыі.

Тлумачылася гэта як вяртанне спрадвечна рускіх земляў у Рускі Свет. Новая пазіцыя ясная: «Расія — гэта там, дзе гучыць руская мова». Яна выглядае вельмі небяспечнай, і не толькі для Украіны. Ёсць яшчэ рускамоўная Беларусь, поўнач Казахстана, усход Эстоніі (гарады Нарва і Кохтле-Ярве), некаторыя раёны Латвіі (Даўгапілс (Дзвінск), Юрмала, Рыга), Прыднястроўе, паўночны Кыргызстан.

«Разлічваю, што грамадзяне Германіі таксама падтрымаюць імкненне рускага свету, гістарычнай Расіі да аднаўлення адзінства», — адзначыў Пуцін у сваім выступе. Тэрмін «гістарычная Расія» і «рускі свет» вельмі шырокі. Пад гэтае азначэнне можна падвесці нават Балгарыю і Манголію.

І хоць Пуцін заверыў, што не імкнецца да падзелу Украіны, ён заявіў, што бальшавікі пры СССР несправядліва перадалі Украіне цяперашні поўдзень і ўсход. Гэтыя словы фактычна значаць, што Расія мае намер забраць таксама Данбас і Адэсу. Між тым, у гэтых рэгіёнах рускія складаюць меншасць насельніцтва — ад 14% у Мікалаеве да 38% у Луганску.

«Калі Расея забярэ Крым, то яна назаўжды страціць Украіну. Украінцы ніколі гэтага Расеі не даруюць», — прадказваў амерыканскі палітолаг і былы дарадца па нацыянальнай бяспецы прэзідэнта Джымі Картэра Збігнеў Бжазінскі.

«Мы не проста суседзі, мы практычна адзін народ», — гэта зноў цытата з выступу Пуціна. І ўзгадаў тут не толькі ўкраінцаў, а і беларусаў. «Ва Украіне жывуць мільёны рускіх і рускамоўных грамадзян, і Расія заўжды будзе іх абараняць».

У звязку з «абаронай» рускамоўных многім узгадалася пазіцыя Рускага царства ў дачыненні Рэчы Паспалітай. У 1686 годзе ў Маскве быў заключаны «Вечны мір» паміж дзяржавамі. Паводле яго, за Расіяй замацоўвалася права «абараняць праваслаўнае насельніцтва Рэчы Паспалітай». Царская Расія ўводзіла ў патрэбны момант войскі, праз сто гадоў гэта прывядзе да знішчэння Рэчы Паспалітай.

Украінскі МЗС сказаў, што выступ Пуціна «сведчыць, якую пагрозу Расія нясе цывілізаванаму свету».

Расія запусціла працэс перадзелу межаў у Еўропе. Канечне, цяпер, калі ў свеце ёсць атамная зброя, гэты працэс не будзе аналагічным таму, якім ён быў у час Першай і Другой сусветных войнаў. Але ўсё адно Еўропа выйдзе з яго іншай. Тэктанічныя пліты прыйшлі ў рух, слабыя будуць струшчаны.

**Зміцер Панкавец**




**Злева направа: прэм’ер-міністр Крыма Сяргей Аксёнаў, спікер крымскага парламента Уладзімір Канстанцінаў, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін і мэр Севастопаля Аляксей Чалы пасля падпісання пагадненняў аб далучэнні Крыма да Расіі.**

### Расія ўцягвае Беларусь у канфлікт на сваім баку

Беларусь нейкі час спрабавала захоўваць нейтралітэт. Аляксандр Лукашэнка няспынна паўтараў словы пра важнасць захавання тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны. Аднак пасля тэлефоннай размовы з Пуціным Лукашэнка пагадзіўся прыняць на тэрыторыі Беларусі дадатковыя расійскія самалёты. Расійскія СМІ падалі гэта як «просьбу Беларусі пра абарону», чым выклікалі рэзкую публічную водпаведзь Лукашэнкі.

У дзяржаўных беларускіх СМІ прапагандысты таксама занялі прарасійскія пазіцыі. Яны апраўдваюць анексію Крыма і чорнымі фарбамі малююць сітуацыю ва Украіне. Нешта падобнае адбывалася ў палітычным дыскурсе Польшчы і Венгрыі, калі немцы дзялілі Чэхаславакію.

Пра небяспекі перадзелу межаў напісаў толькі каментатар агенцтва БелТА Эдуард Півавар: «Расія адкрыла скрынку Пандоры», — папярэджвае ён пра бедствы, якія могуць наступіць. Пра тое, што адбываецца раздзел суверэннай, незалежнай дзяржавы Украіны, не гаворыцца. Пра тое, што сёння Крым, а заўтра можа быць Беларусь, не згадваецца зусім.




**Дзясяткі тысяч расейцаў пратэставалі супраць палітыкі Пуціна і агрэсіі ва Украіне**

Удзельнікі антываеннага шэсця і мітынгу, што прайшоў на праспекце Сахарава, прынялі рэзалюцыю, у якой выказалі салідарнасць з народам Украіны, выступілі супраць нагнятання нянавісці ў расійскіх СМІ, супраць атак на свабоду слова.

Масавыя акцыі прайшлі таксама ў Санкт-Пецярбургу, Екацярынбургу і Самары.

## Украіна адкінула ўльтыматум Расіі

МЗС Украіны **лічыць непрымальнымі** прапановы Масквы.

«Заява МЗС РФ падобна да ўльтыматуму. Пазіцыя, якая там выкладзена, з’яўляецца цалкам непрымальнай для ўкраінскага боку», — заявіў дырэктар дэпартамента інфармацыйнай палітыкі МЗС Яўген Перабійніс.

Паводле яго слоў, Кіеў зыходзіць з таго, што любыя перамовы з Масквой пры міжнародным пасярэдніцтве павінны праходзіць выключна на аснове павагі тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны і неўмяшання ў яе ўнутраныя справы, перадае «Інтэрфакс-Украіна».

«Гэта азначае, што расейскі бок павінен неадкладна спыніць агрэсію і правакацыі на тэрыторыі Украіны, неадкладна вывесці свае войскі ў месцы іх пастаяннай дыслакацыі. Таму яшчэ раз падкрэсліваю, што тыя пазіцыі, якія ўтрымліваюцца ў заяве, непрымальныя і з’яўляюцца прамым умяшаннем ва ўнутраныя справы Украіны», — падсумаваў прадстаўнік МЗС Украіны.

Раней Масква заявіла аб сваёй гатоўнасці прыступіць да фарміравання міжнароднага механізму для вырашэння ўкраінскага крызісу — кантактнай групы падтрымкі для Украіны. У якасці адной з мэтаў міжнароднай групы падтрымкі МЗС Расіі разглядае неадкладныя крокі па прыняцці новай канстытуцыі Украіны, якая б рабіла яе федэратыўнай рэспублікай. Масква таксама выступае за гарантаваны нейтральны ваенна-палітычны статус Украіны і яго замацаванне ў рэзалюцыі Рады бяспекі ААН. У Маскве настойваюць на тым, каб руская мова атрымала статус другой дзяржаўнай.

**МБ**

## 50 дзеячаў навукі і культуры Беларусі падпісалі зварот у падтрымку Украіны

**Адкрыты зварот** апублікаваны на сайце грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», якая акцыю ініцыявала.

Мы, ніжэйпадпісаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь, выказваем сваю падтрымку народу Украіны ў гэты няпросты для яго час. Вы ўступілі ў новы перыяд сваёй дзяржаўнасці. Само па сабе гэта ўжо выпрабаванне як для ўрада, так і для ўсяго ўкраінскага грамадства. На вялікі жаль, змены, якія адбыліся ў вашай краіне, азмрочаныя гібеллю людзей. Вечная памяць і слава героям!

Мы лічым, што кроў не павінна праліцца яшчэ раз. Памяць пра Нябесную сотню Майдану абавязвае ўсіх ўтрымацца ад развязвання вайны.

Цяпер вы сутыкнуліся з праблемай сепаратызму, якая пагражае выліцца ва ўзброены канфлікт. Рэферэндум па далучэнні Крыма да Расіі з’яўляецца замахам на тэрытарыяльную цэласнасць Украіны і супярэчыць яе Канстытуцыі і нормам міжнароднага права. Мы рашуча асуджаем усе спробы дзяліць Украіну па этнічным прынцыпе і выступаем за мірнае вырашэнне праблемаў унутры краіны самімі грамадзянамі Украіны ў рамках закона. Для нас, беларусаў, Харкаў, Данецк, Сімферопаль, Адэса — гэта такія ж украінскія гарады, як Львоў, Луцк, Чарнаўцы і Палтава. Украіна павінна захавацца ў межах, якія замацаваліся за ёй з моманту падпісання Белавежскіх пагадненняў.

Мы з вамі, мы — за непадзельную Украіну, мы — за незалежную еўрапейскую Украіну, будучыню якой мае права вырашаць толькі яе народ.

Слава Украіне!

**Акудовіч Валянцін, Арлоў Уладзімір, Бандарэнка Зінаіда, Белы Алесь, Берніковіч Яраслаў, Булгакаў Валеры, Варашкевіч Ігар, Вярцінскі Анатоль, Глінік Вадзім, Гулак Наста, Гарэцкі Радзім, Голубеў Валянцін, Дашук Віктар, Дашкевіч Алег, Дранчук Валер, Жарнасек Ірына, Жданко Валянцін, Законнікаў Сяргей, Калінкіна Святлана, Кароль Аляксей, Краўцэвіч Алесь, Кузняцоў Ігар, Лабадзенка Глеб, Ліпай Алесь, Марачкін Аляксей, Маркевіч Мікола, Марціновіч Віктар, Някляеў Уладзімір, Падгол Уладзімір, Пашкевіч Алесь, Садоўскі Пётра, Саўка Зміцер, Севярынец Павел, Скобла Міхась, Смалянчук Алесь, Сом Лера, Стужынская Ніна, Харланчук Павел, Хашчавацкі Юры, Чыгрын Сяргей, Шалкевіч Віктар ды іншыя**

# «Крым — гэта найвялікшы рэйдарскі захоп сучаснасці»

Журналістка **Сеўгіль Мусаева**, шэф-рэдактар выдання Hubs, а таксама адзін з валанцёраў праекта «Крым_SOS», адказала на пытанні «Нашай Нівы».



**«Наша Ніва»: Рэферэндум меў сэнс ці быў пустой фармальнасцю?**

**Сеўгіль Мусаева:** Канечне, фармальнасцю. Зараз у Расіі, а таксама самаабвешчаныя кіраўнікі Крыма крычаць аб падтрымцы 97% жыхароў паўвострава далучэння да Расіі. Але як гэта можа быць, калі крымскія татары галасаванне байкатавалі, а гэта каля 15%, не ўдзельнічалі і мясцовыя ўкраінцы. Нават пастаноўка саміх пытанняў не пакідала спадзеваў, што Крым можа застацца ўкраінскім. Выбары не могуць быць справядлівымі пад дуламі аўтаматаў. Пра што гаворка, калі ў галасаванні маглі ўдзельнічаць грамадзяне Расіі, якія карысталіся часовай рэгістрацыяй. А на ўчастках вісела «шпаргалка», дзе выбарцам прапаноўвалася абраць першы варыянт [гэта значыць, далучэнне да Расіі — **«НН»**]. Ужо загадзя было падрыхтаванае святкаванне, канцэрт, феерверк.

**«НН»: Барацьба за Крым прайграная?**

**СМ:** Я думаю, што на нейкі час Крым страчаны для Украіны. Трэба разглядаць дыпламатычныя варыянты вырашэння сітуацыі. Што будзе далей — невядома. Я не выключаю і такога варыянта, што праз нейкі час можа быць вялізнае расчараванне ў новай уладзе. Сёння паўвостраў моцна залежыць ад мацерыковай Украіны ў пытаннях паставак вады, газу, электраэнергіі.

**«НН»: На каго ў Крыме абапіралася Расія?**

**СМ:** На вялізнае расійскае насельніцтва паўвострава. Я вучылася ў школе з такімі людзьмі. У іх заўсёды было спадзяванне на Расію. Што яна дапаможа абараніць Крым ад «бандэраўцаў», якіх тут у вочы ніхто не бачыў, калі яны будуць забіваць і гвалтаваць.

**«НН»: Як у такіх умовах можна дапамагаць акупаваным тэрыторыям?**

**СМ:** Мы робім праект «Крым_SOS». Тысячы людзей звяртаюцца да нас, каб дапамагчы Крыму. Дапамагаем чым можам: прадуктамі, лекамі. Што будзе далей, я, шчыра, не ведаю.

**«НН»: З Крыма будуць з'язджаць людзі?**

**СМ:** Мае бацькі жывуць у Керчы. Яны нікуды не збіраюцца пакуль з'язджаць. Тата плакаў у гэтыя дні ад бяссілля, ад немагчымасці на нешта паўплываць. Частка людзей з'язджае ўжо зараз. Тым не менш, амаль усе разглядаюць гэта становішча як часовае.

Ведаеце, мяне ў гэтай сітуацыі найбольш хвалюе і цікавіць, як павядуць сябе ўкраінскія вайскоўцы, што ўзятыя ў палон у Крыме. Гэта галоўнае пытанне. Яны кажуць, што не збіраюцца здавацца. Калі будзе штурм часцей, ці акажуць вайскоўцы супраціўленне? Калі так, то не дай Бог будуць ахвяры, а гэта можа прывесці да нечаканых сітуацый. Калі вырашаць сысці мірна, то ў бандыта Аксёнава застанецца мноства зброі. Гэта таксама не вельмі добра.

**«НН»: Некаторыя кажуць, што сёння гаворка вядзецца пра выжыванне крымскататарскага народа. Вы згодныя?**

**СМ:** Спадзяюся, што не. Не хочацца верыць у найгоршае. Расійскія ўлады пераконваюць, што ніякіх рэпрэсій не будзе. Але крымскія татары не схільныя верыць такім абяцанням. Усе яны памятаюць дэпартацыю. Мае бацькі, напрыклад, вярнуліся з Урала ў Крым толькі ў 1989-ым. Адназначна, што супраціў будзе. Пакуль толькі не ясна, у якіх формах гэта будзе адбывацца.

Мяне ўсе спрабуюць суцяшаць, але я не бачу пакуль магчымасцяў, каб Крым проста заўтра стаў новым суб'ектам Расійскай Федэрацыі. На гэта трэба не проста вялікія, а грамадныя грошы. Найхутчэй, гэта ўсё пяройдзе ў нейкі вялацякучы стан. Тое, што мы сёння назіраем, — гэта найвялікшы рэйдарскі захоп у сучаснасці.

**«НН»: У Харкаве ці Адэсе можа паўтарыцца крымскі сцэнар?**

**СМ:** Расія будзе і далей спрабаваць рэалізаваць свае планы на гэтых тэрыторыях. Але ў цэлым, я думаю, там крыху іншая сітуацыя, таму не выйдзе.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



Яўка выбарцаў на рэферэндуме ў Крыме, як паведамляецца, «склала» 83%. Сярод тых, хто галасаваў, 97% нібыта выказаліся за далучэнне паўвострава да Расіі.

# Юрый Баранчык: «Не ведаю, ці патрэбны нам Кіеў, бо ён прапах фашысцка-бандэраўскім духам»

Кіраўнік прарасійскага сайта **imperiya.by** Юрый Баранчык адказаў на пытанні «НН».

**«Наша Ніва»: У адным з апошніх артыкулаў Вы напісалі, што «Крым — гэта першы этап па ўз'яднанні рускага народа». А хто яшчэ мусіць далучыцца?**

**Юрый Баранчык:** Значная частка ўсходу Украіны. Луганская, Харкаўская, Данецкая, Запарожская, Днепрапятроўская, Херсонская, Мікалаеўская вобласці. А таксама руская поўнач Украіны — гэта Сумская, Жытомірская, Чарнігаўская вобласці. Пытанне, ці патрэбен нам Кіеў. Бо гэты горад прапах фашысцка-бандэраўскім духам. Канечне, гэта Адэская вобласць. Нам патрэбная мяжа з Прыднястроўем, каб не дапусціць румынізацыі гэтага рэгіёна.

**«НН»: А Беларусь і поўнач Казахстана?**

**ЮБ:** Навошта? З гэтымі краінамі Расія будуе эканамічнае супрацоўніцтва. Ёсць Мытны саюз, хутка ўзнікне Еўразійскі. Ніякай патрэбы няма. Іншая справа Украіна, дзе адбылася нелегітымная змена ўлады.



**«НН»: Яшчэ ў інтэрнэце можна пачуць пра рускіх Латвіі і Эстоніі.**

**ЮБ:** А тут, ведаеце, дэмаграфія грае сваю ролю. У гэтых краінах і так адбываецца змяншэнне колькасці латышоў і эстонцаў, якія выязджаюць на ПМЖ на Захад. Я ведаю, што мясцовыя сем'і імкнуцца выправіць сваіх дзяцей ці ў Вялікабрытанію, ці ў Нарвегію. Рускія ж нікуды не з'язджаюць.

**«НН»: Далучэнне Крыма да Расіі будзе лёгкім?**

**ЮБ:** Пераканаciv, што так. Нават лягчэйшым, чым гэта было ў Абхазіі. Тут моцная эканоміка. Дарэчы, багата беларусаў з'ехала рабіць свой бізнэс у Крым. Яшчэ ў Крым грошы будзе ўкладаць Кітай. Януковіч «кінуў» Кітай на кантракт на 3 мільярды даляраў, якія цяпер кітайцы плануюць уклaсці ў Крым. Гэта будзе адной з баз «Вялікага шаўковага шляху».

**«НН»: Наколькі дарага будзе Расіі ўтрымліваць Крым?**

**ЮБ:** Сёння гаворка вядзецца пра 5 мільярдаў даляраў. Канечне, грошы трэба будзе ўкладаць у пенсіі, адукацыю, турызм. Расіяне паедуць туды адпачываць, зараз гатовыя ўжо ехаць. Ніхто не баіцца магчымасці якога-небудзь тэракту. Ездзілі ж у Егіпет. Паедуць і ў Крым.

Адбылася вялізная духоўная перамога рускага народа. Руская зямля вярнулася на Радзіму. У Расіі цяпер вялізны патрыятычны ўздым. Таму гаварыць у такой сітуацыі пра грошы недарэчна.

**«НН»: Вы крытыкавалі расійскае МЗС за працу з дыяспарай ва Украіне, калі грошы ўкладаліся ў пасядзелкі «пенсіянераў з балалайкамі».**

**ЮБ:** І не толькі ва Украіне. Тое самае можна сказаць пра ўсю постсавецкую прастору. І пра Беларусь у тым ліку. Стаўка рабілася не на тых. Мы прапаноўвалі рэальную работу, але нашы ініцыятывы нярэдка блакаваліся. Цяпер сітуацыя крыху выпраўляецца. Інерцыя мінулых гадоў пераадольваецца. Працаваць трэба не з гуртам песняў і плясак, а з моладдзю, чынавенствам. Ладзіць рэальна патрэбныя семінары, працаваць у інтэрнэце, а не займацца конкурсамі самадзейнасці.

**«НН»: Лукашэнка захоўвае нейтралітэт ва ўкраінскай сітуацыі, выступае за цэласнасць Украіны.**

**ЮБ:** Гэта, канечне, добра, што Беларусь адвяла тэрыторыю для пятнаццаці расійскіх самалётаў. Але лепш бы ны падтрымалі Расію ў гэтым пытанні. Відавочна, што Лукашэнка баіцца парушыць эканамічнае супрацоўніцтва з фашысцкімі ўладамі ва Украіне.

**«НН»: Вы цяпер жывяце ў Маскве? Чым займаецца Ваш Інстытут інфармацыйных войнаў?**

**ЮБ:** Так, некалькі гадоў як пераехаў у Маскву. Інстытут — гэта грамадская структура, якая дзейнічае па заявачным прынцыпе, што немагчыма ў Беларусі. Працуем над стварэннем эксперт-супольнасці, якая магла б аператыўна рэагаваць сваімі каментарамі ў інтэрнэце на важныя грамадска-палітычныя тэмы. У нас цяпер ёсць людзі з Расіі, Беларусі і Украіны. Будуць далучацца з Літвы і Казахстана, а таксама з іншых краін Усходняй Еўропы.

**Гутарыў ЗП**

### Цытата



**«Інтэрнэт-сайты «Заходняя Русь» і «Імперыя», заходнерусісты рыхтуюць глебу для анексіі Беларусі»**

«Кожны, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, павінен дакладна разумець: заходнерусісты — гэта «пятая калона» суседняй дзяржавы. Заходнерусісты нястомна вядуць прапаганду, якая ставіць сваёй канчатковай мэтай ліквідацыю суверэнітэту Беларусі і поўнае яе падпарадкаванне Маскве, — піша ў сваім новым артыкуле выдавец, кандыдат філасофскіх навук, а ў мінулым спецназавец ГРУ Мінабароны Анатоль Тарас. — Як выказаўся адзін з маскоўскіх куратараў гэтай публікі, «даўно пара скончыць з недарэчнай незалежнасцю». Яны распрацоўваюць і прапагандуюць ідэалогію поўнага прыгнёту Беларусі».

# Паралелі, паралелі…

Далучэнне Крыма **нагадала аншлюс** Аўстрыі і Судэтаў. А механізмам — анексію Балтыі ў 1940-м.

За ўсю гісторыю існавалі толькі дзве імперыі, большыя па тэрыторыі за Расійскую: Брытанская і Мангольская. Іх пашырэнне адбывалася пераважна за кошт народаў, чыё ўзбраенне і тэхніка знаходзіліся на ніжэйшай прыступцы развіцця (адпаведна, жыхары Сібіры, індзейцы і індусы, качэўнікі). Адсутнасць сапраўднага супраціўлення нарадзіла ў прадстаўнікоў імперый пачуццё ўласнай выключнасці, а таксама імкненне пашыраць свае тэрыторыі да бясконцасці. Мангольская і Брытанская імперыі засталіся гісторыяй. Расійская працягвае існаваць, бо руская растварылі ў сабе большасць заваяваных народаў.




Беларускі мастак Уладзімір Цэслер адгукнуўся на захоп Крыма іранічным плакатам.

### Дзеля рэалізацыі — ваенныя базы

На момант акупацыі Балтыі ў Літве, Латвіі і Эстоніі (1940 год) ужо знаходзіліся савецкія базы. У Літве ваенны кантыгент складаў 20 тысяч, у дзвюх астатніх рэспубліках — па 25 тысяч. Гэтыя лічбы былі супастаўляльныя з колькасцю армій гэтых краін або нават перавышалі іх.

Паказальнае параўнанне з сучаснасцю. У Севастопалі базаваўся Чарнаморскі флот Расіі. Калі тэрмін яго арэнды падышоў да завяршэння, Расія прымусіла Януковіча падпісаць Харкаўскія пагадненні. Яны працягвалі тэрмін арэнды ў абмен на расійскі газ па ніжэйшых цэнах.

### Увод арміі

Неўзабаве савецкі ўрад выставіў ультыматум Літве, Латвіі і Эстоніі. Іх абвінавацілі ў невыкананні Дамоў аб узаемадапамозе і запатрабавалі сфарміраваць новыя ўрады. Ад апошніх патрабавалася выконваць гэтыя дамовы і прапусціць у рэспубліку яшчэ большую колькасць войскаў. Усе гэтыя патрабаванні былі выкананыя.

### Прадвызначанасць вынікаў

Каб афіцыйна аформіць далучэнне, у трох балтыйскіх рэспубліках прайшлі «выбары». Пад аўтаматамі яны чаканыя вынікі: згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у Літве, Латвіі і Эстоніі на выбарчыя ўчасткі прыйшлі, адпаведна, 95,51, 94,8 і 84,1% выбаршчыкаў. У бюлетэнях знаходзіўся толькі прасавецкі «Блок працоўнага народа». За яго прагаласавалі, адпаведна, 99,19%, 97,8 і 92,8%. Вынікі па крымскім рэферэндуме мала адрозніваюцца.

Савецкае агенцтва ТАСС перадало інфармацыю пра вынікі выбараў у Латвіі яшчэ да таго, як пачаўся падлік галасоў. А самабвешчаны прэм'ер Крыма Сяргей Аксёнаў казаў пра непазбежнае далучэнне да Расіі яшчэ да галасавання.

### Механізм далучэння

У 1940 Народныя сеймы кожнай з трох рэспублік абвясцілі пра ўтварэнне, адпаведна, Літоўскай, Латвійскай і Эстонскай ССР. Наступным рашэннем яны папрасілі Вярхоўны Савет СССР прыняць іх у склад Саюза. Праз пэўны час іх прапанова была ўхвалена. Крымскі парламент таксама аб'явіў аўтаномію незалежнай рэспублікі і папрасіў Расію прыняць яе ў свой склад.

Далучэнне краін Балтыі да Савецкага Саюза так і не было канчаткова прызнана краінамі Захаду. Пры першай жа магчымасці Балтыя вярнула сабе незалежнасць. Праўда, для таго давялося чакаць 50 гадоў.

**Андрусь Вяткоўскі**




Латвія, 1940 год.

## За каго выступілі расійскія дзеячы культуры

### За Пуціна


Надзея Бабкіна, спявачка


Сяргей Бязрукаў, акцёр


Фёдар Бандарчук, рэжысёр


Міхаіл Баярскі, акцёр, спявак


Аляксей Булдакоў, акцёр


Юрый Башмет, альтыст


Алег Газманаў, спявак


Леў Лешчанка, спявак


Генадзь Хазанаў, гумарыст


Зураб Цэрэтэлі, скульптар


Павел Лунгін, рэжысёр


Барыс Гранэўскі, заснавальнік «Ералаша»


Мікалай Растаргуеў, спявак, «Любэ»


Алег Табакоў, акцёр


Іосіф Кабзон, спявак

### За Украіну


Лія Ахеджакава, актрыса


Алег Басілашвілі, артыст


Эльдар Разанаў, рэжысёр


Андрэй Макарэвіч, спявак


Сяргей Юрскі, акцёр


Барыс Акунін, пісьменнік


Барыс Грабеншчыкоў, спявак


Земфіра, спявачка


Міхаіл Жванецкі, гумарыст


Армен Джыгарханян, акцёр


Канстанцін Хабенскі, акцёр


Вячаслаў Бутусаў, спявак


Юрый Шаўчук, спявак


Андрэй Мягкоў, акцёр


Людміла Уліцкая, пісьменніца

# Аляксандр Класкоўскі: Дык хто ў нас пятая калона?

Дзялюся ўражаннямі ад удзелу ў **ток-шоу «Пазіцыя»** на АНТ.

1. З маіх выказванняў выразалі, канечне, нямала. Напрыклад, з «апошняга слова» пакінулі толькі пару фраз. Адсеклі ўсё, што я казаў наконт неабходнасці акуратна адбудоўвацца ад Расіі.

Скарацілі менавіта шэраг вострых момантаў, найперш пра небяспеку, якую нясе Беларусі прывязка да Масквы. Затое пакінулі ўвесь базар-вакзал, калі экзальтаваныя адэпты Крамля накідаюцца гуртом і не даюць сказаць слова.

2. Самі рамкі перадачы былі прапагандысцкімі, сюжэты карэспандэнтаў аднабокія, завостраныя супраць «бандэраўцаў» пры ўладзе ў Кіеве ды супраць Захаду. Вядучы не прытрымліваўся нейтральнасці (хаця ў прынцыпе слова даваў). Падбор экспертаў — з перакосам у бок энтузіястаў крымскай авантуры.

3. Немагчыма сэнсоўна дыскутаваць з замбаванымі людзьмі, якія ўпэўнены, што на Украіне ўзялі ўладу нацысты і г.д.

Самая ж фішка, што на дзяржаўным тэлебачанні мне давялося ўадзіночку абараняць пазіцыю беларускага МЗС наконт тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны — абараняць у атмасферы імперскага шалу!

Дык хто ў нас пятая калона, спадарства?

### Іншы ўдзельнік праграмы:

«Мантаж быў зроблены на карысць прарасійскага дыскурсу (як і відэарэпартажы), многія важныя словы апанентаў не былі ўключаныя ў праграму», — расказвае палітолаг Андрэй Елісееў.

**Аляксандр Класкоўскі**

Нарадзіўся ў 1958 у Мінскім раёне. Карыфей беларускай журналістыкі. Былы галоўны рэдактар газеты «Знамя юности». Цяпер — кіраўнік аналітычных праектаў, палітычны аглядальнік інфармацыйнай кампаніі БелаПАН.

# За зрыў мадэрнізацыі арыштавалі гендырэктара «Барысаўдрэва»

**Праз чатыры месяцы** пасля скандальнай нарады з удзелам Лукашэнкі.

Крымінальная справа заведзена на Уладзіміра Мальцава за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Ён узяты пад варту, а на яго маёмасць накладзены арышт. Паводле праваахоўнікаў, сваімі дзеяннямі гендырэктар прычыніў вялікую шкоду дзяржаўным інтарэсам «у ходзе выканання мерапрыемстваў па мадэрнізацыі».

Дамоклаў меч над Мальцавым навіс яшчэ ў лістападзе, калі на «Барысаўдрэў» прыехаў Аляксандр Лукашэнка. Ён быў абураны сарванымі тэмпамі мадэрнізацыі і публічна зняў з пасадаў кіраўніка Мінскай вобласці Барыса Батуру, старшыню канцэрна «Беллеспапербуд» Аляксандра Пераслаўцава, намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Андрэя Тура. І загадаў завесці крымінальныя справы па фактах парушэнняў, дапушчаных пры праектаванні і будаўніцтве аб'ектаў «Барысаўдрэва», фактах безгаспадарчасці.

Гендырэктар Мальцаў тады ўтрымаўся на пасадзе, бо адпрацаваў яшчэ, па словах Лукашэнкі, «без года месяц». На прадпрыемстве адразу ж правялі суботнік. Работнікі «Барысаўдрэва» тады спачувалі маладому дырэктару. Маўляў, зрабілі з яго самага вінаватага.

Уладзімір Мальцаў на сваю пасаду прыйшоў у 2012-м. Тады акурат Аляксандр Лукашэнка забараніў звальняць з прадпрыемства работнікаў пакуль не завяршыцца мадэрнізацыя. Да прызначэння на «Барысаўдрэў» Мальцаў працаваў, намеснікам дырэктара па вытворчасці на заводзе «Гуматэхніка», на танкарамонтным заводзе.

Між іншым, у лютым завялі крымінальную справу па факце нанясення шкоды дзяржаве пры мадэрнізацыі ААТ «Віцебскдрэў» — адразу пасля таго, як прадпрыемства раскрытыкаваў Аляксандр Лукашэнка.

**Кастусь Матушыч**


БЕЛТА.BY

Уладзімір Мальцаў падчас скандальнай паездкі на «Барысаўдрэў» Лукашэнкі.

# Выкладчык БДУІР забунтаваў супраць нізкага заробку

За студзень ён атрымаў **3,5 мільёна чыстымі**.

Уладзімір Шылкін больш за 30 гадоў выкладае ў БДУІР вышэйшую матэматыку. Чалавек, які ведае пра лічбы ўсё, не разумее, чаму яго заробак складае ўсяго 3,5 мільёна рублёў. Выкладчык стварыў у родным ВНУ суполку Свабоднага прафсаюза металістаў і плануе дамагацца празрыстасці размеркавання ўнутраных фінансавых патокаў. Магчымых наступстваў гэтага кроку ён не баіцца: «Менш, чым тут, я нідзе не буду зарабляць».

«За студзень, працуючы на стаўку, я атрымаў «чыстымі» 3,5 мільёна, — тлумачыць ён. — Аклады ў нас мізэрныя: у старшага выкладчыка 1,3—1,35 мільёна. Далей ідуць надбаўкі, якія даганяюць заробак [да выплаты падаткаў] да 4—4,5 мільёна. Дацэнт атрымлівае 5,5—6 мільёнаў, а прафесар — 8—10 мільёнаў. Асобныя прафесары зарабляюць па 15 мільёнаў, але іх ва ўніверсітэце можна пералічыць па пальцах адной рукі».

Шылкіна абурае розніца ў заробках выкладчыкаў і дэканаў з рэктарамі. «У сваіх прэтэнзіях я не адзінокі, у мяне шмат аднадумцаў. Сутнасць абурэння: мы зарабляем грошы, а яны іх дзеляць», — кажа ён.

Адміністрацыя БДУІР пакуль ніяк не адрэагавала на актыўнасць Шылкіна, але звальнення выкладчык не баіцца.

«Я не пагрэбую пасля 30 гадоў выкладання змяніць прафесію. Менш, чым тут, я нідзе атрымліваць не буду. Зарплата прыбіральшчыкаў і грузчыкаў ад 5 мільёнаў, плюс сацпакет. Такую працу я зраблю, а вось яны маю не зробяць ніколі, — кажа выкладчык. — Пасля нашай ВНУ студэнты паступалі ў Францыю, Германію, ЗША. Пасля курса маіх лекцый матэматыка ім залічвалася аўтаматычна».

Старшыня прафкама БДУІР Сяргей Кракасевіч бачыць прычыну нізкага заробку ў тым, што Шылкін не выкарыстоўвае ўсе магчымасці зарабіць, якія дае ВНУ: «Ён працуе на стаўку. Яго аўдыторная нагрузка вычэрпваецца двума днямі на тыдзень. Акрамя таго, ён праводзіць кансультацыі з завочнікамі двойчы на месяц. Публікацый у Шылкіна няшмат, а за іх плацяць прэміі. Акрамя таго, выкладчыкі ВНУ імкнуцца атрымліваць навуковыя ступені і званні, за якія таксама ідзе даплата. Хто забараняў яму за 30 гадоў працы атрымаць ступень?»

**Паводле: finance.tut.by**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Міхалу Анемпадыставу — 50

Стваральнік легендарнага **«Народнага Альбома»** 16 сакавіка адсвяткаваў юбілей.

**«Наша Ніва»: Вы і дызайнер, і графік, фатограф і паэт, але кім Вы ўсё ж такі сябе лічыце?**

**Міхал Анемпадыстаў:** Вось ужо трыццаць гадоў я перадусім дызайнер. Бо дызайн — гэта сінтэтычны від дзейнасці, які дапускае пранікненне ў іншыя віды дзейнасці. Нават калі я пішу, я шмат у чым застаюся дызайнерам. Праца дызайнера ўключае ў сябе і працу графіка, і працу з тэкстам, і безліч усяго іншага.

Добры дызайнер павінен арыентавацца ў многіх тэмах і знаходзіць адказы на любыя пытанні, пачынаючы прававымі аспектамі і санітарнымі нормамі, сканчаючы стылем, камунікацыяй ды псіхалогіяй. Праца дызайнера падобная да працы палітыка. Яна палягае ў падпарадкаванні рэчаіснасці.

**«НН»: Міхал, якое дасягненне ў сваім жыцці Вы лічыце самым галоўным?**

**МА:** Стварэнне «Народнага Альбома».

**«НН»: У чым яго цуд і феномен?**

**МА:** «Народны альбом» — гэта любоў. Не проста ж так на вокладцы сэрца. Гэта любоў да свайго і тых цудаў, якія нясе ў сабе жыццё. Гэта альтэрнатыва нянавісці і жыццёвай пазіцыі, пабудаванай на адмаўленні. Мы хацелі вывесці людзей з дэпрэсіі і прапанаваць эмацыйную альтэрнатыву. «Народны альбом» антыміcтычны і вітальны. Любоў да чагосьці — больш стваральная матывацыя, чым нянавісць. Асабліва, калі нам патрэбная матывацыя на працяглы перыяд.

**«НН»: Ці магчыма нешта падобнае стварыць зараз?**

**МА:** Тады мы рабілі ўсё абсалютна бясплатна, зараз мы такі праект не паднялі б, бо ўсё робіцца за грошы. Мы ж тады не ўклалі ніводнай капейкі.

**«НН»: Што б Вы абралі ў якасці сімвала Беларусі?**

**МА:** Бел-чырвона-белы сцяг, адзін з найпрыгажэйшых сцягоў у свеце, і Пагоню. Навошта прыдумваць нешта новае, калі яно ўжо нашымі папярэднікамі прыдумана?

**Гутарыла Вольга Гарапучык, поўную версію інтэрв'ю чытайце на nn.by**

# Як дзесяцікласнік «нагрэў» мінчукоў на візах

Сын багатых бацькоў вырашыў зарабіць.

15-гадовы сталічны школьнік Паша запусціў у інтэрнэце рэкламу агенцтва, якое дапамагае ў атрыманні візаў. Абяцаў дацкія, польскія, іспанскія шэнгены за 200 еўра. А каб зарэкамендаваць сябе, звярнуўся да папулярнага турыстычнага сайта.

«Напісаў нам: «Добры дзень, мы — маладое агенцтва, хацелі б правесці разам з вамі конкурс — гатовыя пераможцам зрабіць бясплатны шэнген», — расказвае рэдактар сайта Vandrouki.by Андрэй Міранчук. — Я папрасіў нумар тэлефона, адрас, рэквізіты — нібыта ўсё добра. Першы конкурс правялі — пераможцы сапраўды атрымалі візы, вось няўдаўна скончыўся другі. І пачаліся праблемы».

Вось тады і пасыпаліся дзясяткі скаргаў і гісторый пра сарваныя паездкі за мяжу, грашовыя страты і пашпарты, якія тыднямі не могуць вярнуць. Як падлетак здолеў ашукаць дарослых? Адказ просты. Сустрэчы праводзіў у офісе, кансультаваў граматна, ды яшчэ сам кіраваў машынай. На выгляд ніхто не мог даць яму менш за 18 гадоў. Праўда, рэквізіты ў дамовах былі «левымі». Але хто ж правярае такія дэталі.


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

Калі ў падлетка забіралі пашпарты, у багажніку валяліся дзясяткі іншых дакументаў.

Анжаліка была адной з кліентак прадпрымальнага школьніка. Праўда, матэрыяльных прэтэнзій да яго не выставіла — на радасцях, што хаця б здолела вярнуць свой пашпарт. «Мы сустрэліся 23 студзеня, а 13 лютага ў мяне планавалася паездка за мяжу. Ён пад'ехаў да мяне на працу. Адразу ж у дамову ўпісаў мае дадзеныя, узяў грошы, пашпарт».

Анжаліка рабіла іспанскую візу на лета — загадзя вырашыла спланаваць адпачынак. А да канца красавіка ў яе дзейнічала папярэдняя віза. І таму не хвалявалася пра замежную камандзіроўку. Але пашпарт Паша не вяртаў, а толькі «карміў» абяцаннямі вось-вось падвезці. У выніку Анжаліцы давялося мяняць білеты на самалёт — страціла 60 еўра. На гэтым, праўда, непрыемнасці не скончыліся. Калі яна ўсё-ткі забрала пашпарт, іспанская віза была адкрыта зусім не на лета — на месяц з 19 лютага.

«На просьбу вярнуць грошы ён сказаў, каб я з'ездзіла хаця б разок па гэтай візе, і на наступную будзе зніжка 135 еўра, — расказвае яна. — Але самае непрыемнае адбылося, калі знаёмыя паведамілі, што віза, якую я атрымлівала раней, анулюецца. Я жахнулася, бо былі запланаваны паездкі за мяжу адна за адной».

Значна большую суму на авіябілетах страціла Марыя (імя зменена па яе просьбе). Пашпарт яна вярнула без запаветнага пропуску на Захад і мае да Паўла грашовыя прэтэнзіі. «У мяне планаваўся вылет, і пашпарт ён абяцаў вярнуць своечасова, але не вярнуў — білеты прапалі. Ён абяцаў усё кампенсаваць. Назбіралася сума ў 1800 еўра. Грошай такіх у яго, зразумела, не было. І я папрасіла напісаць распіску. Ніхто ж не думаў, што яму толькі 15 гадоў, і ён не мог яе падпісваць. А яго брат прапануе мне вярнуць толькі 200 еўра».


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

15-гадовы Паша «ўсмактаў» салодкае жыццё з цыгарэтным дымам.

Калі ў міліцыю напісалі першыя заявы, а колькасць ашуканых пайшла на дзясяткі, родныя падлетка спахапіліся. Яго брат з сябрам за дзень-два раздалі людзям пашпарты і грошы.

«Ніякай фірмы няма. І не ведаю, чаму яму аддавалі пашпарты», — адзначыў Дзмітрый, які разам з братам Пашы развозіў дакументы.

У гэтай гісторыі шмат няясната. Ці працаваў падлетак адзін? У чыім офісе прымаў кліентаў? Як ён рабіў візы — бо некаторыя людзі іх сапраўды атрымалі? І як у 15 гадоў без правоў ездзіў за рулём «БМВ»?

Між іншым, бацька Пашы — гендырэктар буйной кампаніі. Да гэтага займаў высокую пасаду ў Мінаблвыканкаме, працаваў у структурнай адзінцы Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.

**Сяргей Макарэвіч**

**«Што за праблема?»**

«Наша Ніва» датэлефанавалася да маці падлетка. «З гэтага ўсяго раздзьмулі нешта надзвычай абуральнае. Я не разумею, што за праблема… Вам няма пра што напісаць? Ужо ўсе пашпарты і грошы раздалі, у мяне ёсць распіскі. Таму больш без каментарыяў…»

**Вышук**



**Пацярпелі дзеці**

43-гадовы мужчына на фота падазраецца ў педафіліі. Вядомыя факты распусты ў 2002 годзе. Але ахвярамі маглі стаць дзеці і ў іншы час. Мужчына пражываў у Мінскім раёне. Калі вам вядома пра злачынствы гэтага чалавека, звяртайцеся ў Следчы камітэт па: (017) 395-50-18, (029) 655-60-50.

## «Я не хацеў гэтага забойства — так выйшла»

За краты адправілася сямейная пара наркаманаў.

Год таму, 12 сакавіка, у Вілейцы забілі маладога бацьку. 26-гадовага Аляксандра 27 разоў пырнулі нажом, а пасля спалілі ва ўласным доме. Пакуль ягоная жонка з малалетнім сынам ляжалі ў бальніцы, сям'я за адну ноч засталася без усяго. Цяпер справа атрымала завяршэнне: вінаватых асудзілі.

Пасля забойства затрымалі мужа і жонку — Паўла і Насту. І яны нібыта адразу ва ўсім прызналіся. Але год цягнуліся экспертызы, пасяджэнні суда пераносіліся... Абвяшчаць жа прысуд пару прывезлі з Вілейкі ў Мінск.

Паўлу — 36 гадоў, раней судзімы. Ад першага шлюбу ў яго ёсць малалетнія дзеці. Анастасіі — 25. Абое — наркаманы. Разам ужо, праўда, не жылі. Яго прызналі вінаватым у забойстве з асаблівай жорсткасцю і падпале, яе — у крадзяжы з дома (ноўтбук, ювелірныя ўпрыгожанні). Муж правядзе за кратамі 20 гадоў і мусіць выплаціць 164 мільёны рублёў маральнай і матэрыяльнай шкоды, жонка — 4 гады і 30 мільёнаў адпаведна.

У тую ноч, як высветлілася, смерць для маладога бацькі стала фактычна выпадковай. У хлопца былі шанцы пазбегнуць няшчасця, а ён нібы наўмысна цягнуўся да забойцы.

Усё пачалося з таго, што з Аляксандра патрабавалі дзве тысячы даляраў. Нібыта той пакрыўдзіў дзяўчыну, і яна збіралася напісаць заяву ў міліцыю. І Павел выступіў перамоўшчыкам паміж бакамі. Сустрэліся, пагаварылі. На наступны дзень Саша запрасіў яго да сябе, ужо з жонкай. Выпівалі. Пара сышла ў бар непадалёку. Гаспадар далучыўся да іх. Пасля зноў вярнуліся ў дом. Але новае застолле не заладзілася. Мужчыны пасварыліся і пабіліся. Вынік — не менш за 27 нажавых раненняў на целе Аляксандра. Каб схаваць сляды злачынства, мужчына падпаліў дом.

А што яго жонка? Сышла пасля забойства. Ужо пасля следчыя высвятлілі, што з дома зніклі ноўтбук, ювелірныя ўпрыгожанні... І знайшлі іх у Насты.

«Я не хацеў, каб так здарылася. Збег абставінаў. Я не ішоў з мэтай забіваць ці рабаваць альбо яшчэ нешта, — казаў Павел у апошнім слове. І прасіў прабачэння: — У першую чаргу ў родных і блізкіх Сашы. Мне шкада, што так выйшла. Калі некалі змагу мне даравацца, даруйце. Па магчымасці, я ўладкуюся на працу ў турме і буду выплачваць кампенсацыю, каб хаця б неяк загладзіць сваю віну. Таксама хачу папрасіць прабачэння ў сваіх бацькоў за пакуты, якія пераносяць разам са мной. Я не хацеў гэтага забойства — проста так выйшла».

Прабачэння прасіла і Наста. «Я сваю віну прызнаю цалкам. Віну сваю асэнсавала, шчыра каюся. Хацела б папрасіць прабачэння за нанесеную шкоду ў пацярпелых, сваіх бацькоў — ведаю, што ім цяпер найцяжэй. Мамачка, даруй. Прашу не караць мяне строга...»

Пракурор прасіў больш жорсткага пакарання для абаіх і ставіў пытанне пра прымусовае лячэнне ад нарказалежнасці.

У асобным грамадзянскім працэсе яшчэ будзе разглядацца пазоў жонкі забітага Аляксандра пра кампенсацыю за спалены дом. Шкоду ацанілі ў 230 мільёнаў рублёў.

**Кастусь Матушыч**

## Сціслa

**Папаўся на восьмым хабары**

Справа намесніка старшыні дзяржканцэрна «Белнафтахім» Уладзіміра Волкава перададзена ў суд. Яго абвінавацілі па васьмі фактах атрымання хабару. Падчас следства накладзены арышт на яго маёмасць: каля $100 тысяч, дзве кватэры, гараж, BMW X5.

**«Ачысціць зямлю ад наркаманаў»**

30-гадовы мінчук застрэліў сябра дзяцінства, каб, па яго словах, «ачысціць зямлю ад наркаманаў». Ён папрасіў прыяцеля перагнаць з ім машыну, а па дарозе заехаў у лес, дзе застрэліў з абрэза хлопца, а труп закапаў. Аператыўнікі валодаюць інфармацыяй, што падазраваны меў намер забіць яшчэ трох знаёмых.

**Будавалі катэдж дырэктару**

Арыштаваны намеснік гендырэктара «Віцебскэнерга». Падстава — злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, калі ён узначальваў аграрнае прадпрыемства. Падрадная кампанія выконвала работы на прадпрыемстве, аднначасова будавала катэдж для дырэктара. Ён жа падпісваў дакументы на выплаты фірме па павышаных каэфіцыентах. Сума шкоды складае больш за 10 мільярдаў рублёў.

**КМ**

# Як забудоўваюцца



**На першай берагавой лініі пасяліліся мільянер Аляксандр Шакуцін і тэнісны трэнер Лукашэнкі Сяргей Цяцерын**

Чыноўнікі без аўкцыёну атрымліваюць зямлю ў Вяснінцы, дзе надзел **каштуе да $400 тысяч**.

Яшчэ некалькі гадоў таму Вяснінка была закінутым раёнам на ўскрайку Мінска. Такая сабе вёска ў межах сталіцы — разбітая дарога паміж пахіснутымі хаткамі ды гіганцкія агароды навокал. Хоць месца казачнае: сто метраў да вадасховішча, паўкіламетра да праспекта Пераможцаў, кіламетр да элітных Драздоў.

Зрэшты, Вяснінка доўгі час насамрэч была вёскай. Але ў 1975 годзе мясцовы калгас ліквідавалі, а сем дзясяткаў хат уключылі ў межы горада.

З цягам часу зямля даражэла, і да яе пачалі прыглядацца багатыя беларусы. Вяснінкаўцы з радасцю пагаджаліся на продаж. Дзякуючы атрыманым грошам яны маглі забяспечыць бязбеднае існаванне і сабе, і дзецям. Новыя гаспадары зносілі старыя хаты, а на іх месцы будавалі катэджы.

Калі кошт участкаў дасягнуў $300-400 тысяч, у справу ўмяшалася ўлада. Чыноўнікі прыдумалі план ушчыльнення Вяснінкі і летась вынеслі яго на грамадскае абмеркаванне. Сутнасць праекта была ў тым, каб нарэзаць у раёне каля 40 новых участкаў. Некаторыя — на пустым месцы, некаторыя — замест агародаў цяперашніх жыхароў. А яшчэ некалькі самых прэстыжных дамоў вырашылі пабудаваць наўпрост на беразе вадасховішча.

Згоду жыхароў атрымаць не ўдалося. Але калектыўныя звароты супраць фарміравання новых участкаў задавольваць не сталі.

Пачаліся будаўнічыя працы. Іх меркавалася закончыць у маі 2014 года, аднак укласціся ў тэрміны не ўдаецца.

## Засяленне перад высяленнем

Як выглядае Вяснінка цяпер? Гэта дзіўная мяшанка катэджаў і развалюхаў, гаспадары якіх чакаюць купцоў.

Паўсюль ідзе будоўля. Экскаватар раўняе пясок для пракладкі новай дарогі, у брудзе колам стаіць грузавік, кіроўца якога прывёз будматэрыялы да аднаго з катэджаў, але не разлічыў, што праезду фактычна няма.

Каля калонкі на рагу вуліцы Вяснінка і завулка Вяснінка (побач ёсць і праезд Вяснінка) мужчына ў спецвопратцы набірае ваду ў вёдры. «Тут што, з усіх дамоў да калонкі бегаюць?» — пытаюся ў яго. «Ды не, — усміхаецца той, — у нас у хаце труба прамерзла, дык да вясны і ходзім з вёдрамі».

Гаспадары хат не ўкладаюць грошай у бягучы рамонт: нашто, калі будынак неўзабаве знішчаць? Пра тое, што многія вяснінкаўскія дамы чакае знос, мясцовыя жыхары пачалі здагадвацца некалькі гадоў таму. І падышлі да гэтага пытання ў поўным узбраенні. Ледзь не кожная халупа на ўсялякі выпадак тэрмінова перарэгістроўвалася ў «шматкватэрны дом». Справа нескладаная — зрабіць дадатковы ўваход у хату і прапісаць туды сваякоў, каб пасля, пры зносе, атрымаць жыллёвую кампенсацыю на кожнага.

«Чыноўнікі ў выканкаме ад злосці ледзь не лопаліся, — рагочуць вяснінкаўцы. — Як зносілі апошнюю хату на завулку, дык там сем саўласнікаў налічылі! А іхнія суседзі нават бабулю аднекуль з Варонежскай вобласці прывезлі: вось, маўляў, ёй таксама кватэра трэба!»

## «Больш за $400 тысяч не плацяць»

Але не ўсім «пашанцавала» пайсці пад знос і атрымаць гарантаваную кампенсацыю ад дзяржавы. Тыя, чые дамы, паводле генплана, ацалеюць, самі шукаюць купцоў. На сёння ў базе рыэлтарскіх агенцтваў ёсць з дзясятак прапаноў ад вяснінкаўскіх прадаўцоў — ад 300 да 700 тысяч даляраў.

За колькі ж яны рэальна гатовыя аддаць сваю зямлю? «У аб'яве можна што заўгодна пісаць, але пакуль што ніхто з суседзяў больш за $400 тысяч не атрымаў», — прызнаецца жыхарка адной са старых хатак. Будынак належыць не ёй, а брату былога мужа. «Мне ўсё адно, хай яны хоць за $100 тысяч прадаюць, — кажа жанчына. — Але я адразу сказала: купляйце мне двухпакаёвую кватэру і машыну — і я сыходжу».

Рэальнай рынкавай цаны не ведае ніхто. Багатыя купцы не хочуць «свяціць» свае грошы, таму ў дамовах аб куплі просяць прадаўцоў пісаць несапраўдныя сумы. Напрыклад, адзін з надзелаў быў прададзены нібыта менш чым за $8000. У дакумент проста запісалі прыгожую лічбу ў беларускіх рублях.

Так зрабіла грамадзянка Беларусі Алівера Нядзелькавіч, прадстаўніца сям'і Карычаў — самых багатых бізнэсменаў Сербіі часоў Слабадана Мілошавіча. Багацце братоў Карычаў тады ацэньвалася ў $4 мільярды. Цяпер адзін з іх, Драгамір, лічыцца ганаровым консулам Беларусі ў Белградзе.

Побач з ёй хапае і іншых багатых людзей. «Вось тут у нас ювелірны квартал, — праводзіць «экскурсію» па Вяснінцы мясцовая жыхарка. — Дырэктар «Зіка» (**Ігар Зайцаў** — «НН») купіў спачатку адзін дом, пасля другі. Аб'яднаў участкі, паставіў высокі плот. Праз некалькі дамоў і ягоны намеснік пасяліўся. А вось тут, каля самага возера, мільянер з «Пятага элемента» (**Андрэй Балабін** — «НН») жыве. Добры чалавек, ніводнага дрэннага слова пра яго не чула».

Славутасць Вяснінкі — 75-гадовая бабуля, якая выкупіла адразу два ўчасткі на супрацьлеглых канцах раёна. Агулам заплаціла больш чым паўмільёна даляраў. Але багатыя таксама плачуць. Іншы яе катэдж на беразе Цнянскага вадасховішча год таму быў арыштаваны па пастанове следчага КДБ.

## Ці паселіцца тут Ладуцька?

Бізнэсмены — нябедныя людзі. Тое, што яны выкупляюць звышдарагія зямельныя ўчасткі, пытанняў не выклікае. А вось калі б гэта самае рабілі чыноўнікі, падатковая інспекцыя атрымала б нашмат больш працы. Адкуль, напрыклад, у міністра фінансаў Андрэя Харкаўца возьмуцца $300 тысяч для куплі?

Выйсце з сітуацыі было знойдзенае простае. Як і дзесяць гадоў таму падчас будаўніцтва «Царскага сяла» ў Драздах, чыноўнікі і іншыя набліжаныя да ўлады асобы атрымліваюць участкі для будаўніцтва проста так. Можа, і не за проста так, але даведацца ўмовы выдзялення зямлі грамадскасці немагчыма. Такія дазволы афармляюцца рашэннямі Мінгарвыканкама, якія адсутнічаюць у адкрытых рэестрах прынятых дакументаў.

Мясцовыя жыхары між сабой абмяркоўваюць, хто стане іх суседзямі. «Праз тры хаты ад мяне Азаранку можаце сустрэць... А вось там, кажуць, нехта з пракурораў зямлю ўзяў», — паказвае рукой жыхарка адной са старых хатак. Называць прозвішча патэнцыйнага суседа яна не хоча. Даводзіцца справакаваць яе: «Які пракурор? Ладуцька ж там будуецца...» «Ды не, Ладуцька вось там, каля берага будзе! — раптам прызнаецца яна і адразу ўдакладняе: — Але мы нічога не бачылі і не чулі».

## Новыя жыхары

Правы ўласнасці на зямлю на сёння афармілі толькі некалькі чыноўнікаў і набліжаных да ўлады асобаў. Паказальна, што зямлю пад будаўніцтва Мінгарвыканкам выдаў большасці з іх яшчэ за год-два да правядзення грамадскіх слуханняў.

Яшчэ ў 2011-м участак у «новых Драздах» займеў удзельнік біятлоннай каманды Лукашэнкі на «Мінскай лыжні» **Сяргей Булыгін**. Савецкі біятланіст паходзіць з Новасібірскай вобласці, аднак у 20-гадовым узросце перабраўся ў Мінск. У складзе эстафетнай савецкай зборнай ён перамагаў на Алімпіядзе-1984 і некалькіх чэмпіянатах свету, аднак у індывідуальных спаборніцтвах меў горшыя вынікі. Пасля заканчэння кар'еры спартсмен заняўся бізнэсам. А ў 1998 увайшоў у кіраўніцтва Беларускай федэрацыі біятлона, якую традыцыйна курыруе КДБ. Цяпер Булыгін — першы намеснік Валерыя Вакульчыка па федэрацыі.

Праз год элітная зямля дасталася грамадзяніну Расіі, дзяржаўнаму сакратару саюзнай дзяржавы **Грыгорыю Рапоту**. Больш за 30 гадоў свайго жыцця ён прысвяціў замежнай выведцы ў савецкім КГБ і расійскім ФСБ, а пасля працягваў




План забудовы. Светлыя катэджы – тыя, што ўжо існуюць, цёмныя — праектаваныя, некаторыя з іх ужо будуюцца.

# «новыя Дразды»?

службу і ў Міністэрстве гандлю, і ў Міністэрстве навукі.

Прыхільнік доўгай працы на адным месцы і яшчэ адзін землеўласнік, згаданы вышэй **Андрэй Харкавец**. Сын наменклатурнага работніка, ён пасля заканчэння наргаса ў 1985-м прыйшоў у Міністэрства фінансаў. За 29 гадоў Харкавец даслужыўся да пасады міністра. Паводле меркавання экспертаў, чыноўнік з'яўляецца прадстаўніком «ліберальнага» крыла ў беларускім урадзе.

Свае 15 сотак атрымае і гомельскі юрыст **Аляксандр Федарцоў.** Яго імя не такое вядомае, хоць ён амаль дзесяцігоддзе займае пасаду першага намесніка старшыні Вярхоўнага Суда. Федарцоў — той самы чалавек, які ў канцы 2011 чатыры гадзіны зачытваў расстрэльны вырак Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву.

### На ўзбярэжжы

Першая берагавая лінія — самая дарагая зямля ў Вяснінцы. Яе пачалі раздаваць яшчэ сем гадоў таму. Тады ўчастак пад будаўніцтва займеў адзін з самых уплывовых беларускіх бізнэсменаў, старшыня рады дырэктараў «Амкадора» **Аляксандр Шакуцін**. За некалькі гадоў на пляцоўцы вымахаў гіганцкі чатырохпавярховік (калі лічыць з цокальным паверхам) агульнай плошчай больш за 1000 м²! *(глядзі фота)*

Неўзабаве побач пачаў будавацца тэнісіст **Сяргей Цяцерын**. У савецкія часы ён дасягаў якіх-ніякіх вынікаў на юніёрскім узроўні, а ў незалежнай Беларусі ўзначаліў зборную. Уплывовасць яму прынесла факультатыўная праца — Цяцерын вучыў тэнісу Аляксандра Лукашэнку. Цяпер ён заўсёдны ўдзельнік паездак кіраўніка дзяржавы на адпачынак у Сочы.

Прадэманстраваць трэнерскае майстэрства Цяцерыну найлепш удалося ў 2004-м, калі мужчынская зборная Беларусі сенсацыйна дайшла да паўфіналу Кубка Дэвіса, атрымаўшы бліскучую перамогу над Расіяй.

Доўгі час ён працуе намеснікам старшыні Федэрацыі тэніса Беларусі, якую, дарэчы, цяпер узначальвае Аляксандр Шакуцін.

Прыземісты катэдж Цяцерына стаіць на ўскрайку, хаваючыся за плотам. Калі паглядзець па спадарожнікавых картах, то адлегласць ад яго да вады складае ўсяго 30 метраў! Аднак праекціроўшчыкі пераконваюць, што гэта нават замнога, было б дастаткова і 18 метраў да вадасховішча.

Раней Шакуціну з Цяцерыным і іх гасцям даводзілася прабірацца да дома па гравійцы пад «кірпіч». Цяпер да іх катэджаў пракладаюць асфальтаваную дарогу. Каб зрабіць адгалінаванне вуліцы Вяснінка, давялося зносіць дом і адсяляць жыхароў. Вядома ж, за бюджэтны кошт.

Паводле прынятага генплана, уздоўж берага, побач з Шакуціным і Цяцерыным, змогуць пасяліцца яшчэ сямёра чалавек.

Некаторыя з гэтых катэджаў ужо амаль дабудаваныя і чакаюць сваіх уплывовых гаспадароў. Нагадаем, ніякія адкрытыя аўкцыёны па выдзяленні зямлі не праводзіліся.

**Ягор Марціновіч, фота аўтара**

## Топ-5 самых адметных катэджаў Вяснінкі

Шпацыруючы па вуліцах Вяснінкі, можна ўбачыць катэджы самых розных архітэктурных стыляў. Вашай увазе прапануецца пяць самых арыгінальных будынкаў. Кожны з іх пракаментавала архітэктар **Аляксандра Баярына**.



**Той самы гіганцкі дом Аляксандра Шакуціна (выгляд ззаду).**

«З мінусаў тут плоскі фасад, занадта плоскія і дробныя накладныя элементы вакол вокнаў, маленькія вокны — адчуваецца нейкая агульная аўтарская нерашучасць. Колеравае рашэнне спакойнае, што неяк прыхарошвае выгляд пацыента».





«Першае жаданне — адмовіць гэтаму будынку ў праве называцца архітэктурай. Незразумела, для якой функцыі задуманая гэта пабудова. Дыягназ — цыганшчына ў вопратцы класікі. Смела, хвостка, але выдаткі пайшлі на глум».



«Здавальняючая адаптацыя інтэрнацыянальнага стылю да беларускага клімату. Адаптацыю выдаюць памеры, прывязка акна на правай частцы фасада і лесвіца, якой у такім выглядзе ў дадзеным тыпе архітэктуры не бывае. Але добры будынак, станоўчы».



**Суседзі кажуць, што гэты праект — копія прыбалтыйскага палаца.**

«Сучасныя матэрыялы адпавядаюць форме і кампазіцыі. Нават пры такой змрочнасці станоўча працуе маналітнае вобразнае рашэнне аб'ему як сукупнасці ўсіх даступных позірку элементаў. Усё ідэальна! Калі яшчэ ўдала выкананы ландшафтны дызайн, праект можна аднесці да найлепшых у краіне».



«Даволі сімпатычны дом, які адпавядае тэндэнцыям будаваць невялікі па агульнай плошчы аднапавярховік, мажліва, з невялікай часткай другога паверха. Колеры экстэр'еру сябруюць, агароджа ў гармоніі з фасадамі — гэта радуе! Якасная праца архітэктара відавочная па далікатным выкарыстанні матэрыялаў для аздаблення. Гэта толькі здаецца, што катэдж сціплы, насамрэч ён поўны самапавагі і адчування годнасці.

Але будаўніцтва такога распластанага катэджа — дарагое задавальненне. Муры другога паверха каштуюць менш за дах. Такі дом бліжэй да элітнага, чым двухпавярховы. Лесвіца марнуе сілы, энергію, час, бо калі забылі нешта на 2-ім паверсе, давядзецца зноў адлічваць два маршы ўверх і ўніз. Любыя прыступкі — гэта намаганні, таму ідэальнае элітнае жытло — без прыступак».

# Таямніцы дома

Жыхары Маркса, 36 расказваюць гісторыі свайго жыцця.


Выгляд з вуліцы.

Гэты дом ведае кожны жыхар сталіцы. Цэнтр Мінска, насупраць — Купалаўскі тэатр. На першым паверсе — кнігарня «Веды». На тарцы — уваход на станцыю метро «Купалаўская». Сям'я паэта і перакладчыка Аляксея Зарыцкага пасялілася ў доме, калі ён толькі быў пабудаваны. Сям'я празаіка і літаратуразнаўцы Івана Навуменкі атрымала ордэр на кватэру ў пачатку 1964 года. Пра гісторыю дома расказваюць яго жыхары, дочкі пісьменнікаў: Таццяна Аляксееўна Зарыцкая і Валерыя Іванаўна Навуменка.

**Таццяна Зарыцкая:** Пасля вайны ад дома, які стаяў на месцы цяперашняга, нічога не засталося. Праз пэўны час вырашылі будаваць новы. У савецкія часы дамы звычайна здавалі да нейкага свята. Дом на Маркса, 36 быў гатовы да 7 лістапада 1953 года.

**Валерыя Навуменка:** Калі ён будаваўся, дрэвы садзілі самі жыхары. Амерыканскія клёны, белую акацыю, бэз... Пазней дрэвы паспілоўвалі. Памятаю, як Уладзімір Караткевіч ратаваў рабіну. Прымацаваў яе дротам да апоры і паліваў, насіў ваду з пятага паверха.

**ТЗ:** Дарэчы, у 1970-я ў доме часта адключалі ваду. Караткевіч шмат хадзіў па інстанцыях і змагаўся з чыноўнікамі... Наогул, наш дом быў пабудаваны ў стылі «сталінскі» ампір. Манументальны, пампезны. У кватэрах — высокія столі і прасторныя пакоі. Дом складаўся з трох пад'ездаў. Два адбудаваў за ўласныя грошы Літфонд, яшчэ адзін — гарсавет (кватэры там атрымалі будаўнікі), у прыватнасці, з будтрэста №4.

**ВН:** У ордэрах (зразумела, рускамоўных) было пазначана слова «дровянник». У кватэрах меліся печкі, але з дзяцінства памятаю толькі кафляную сцяну на кухні, бо недзе на пачатку 1960-х правялі газ. Дарэчы, да сярэдзіны 1970-х можна было хадзіць па паддашшы з пад'езда ў пад'езд.


Выгляд са двара.

### «Брыль вучыў нас рабіць партызанскую печку»

**«НН»: Дом на Маркса, 36 вядомы славутымі жыхарамі, сярод якіх былі Янка Брыль, Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Іван Шамякін. Як складваліся адносіны з імі?**

**ВН:** Адносіны між суседзямі былі добразычлівымі. Аднойчы мой 3-гадовы брат Павел спускаўся па лесвіцы, а насустрач падымаўся пісьменнік Ян Скрыган, які жыў на паверх вышэй за нас. Брат кажа яму: «Во!». «Што?» — спытаў Скрыган. «Ты не бачыш, што ў мяне новыя чаравікі?» Скрыган адразу падыграў яму: «Ты што, Павел Іванавіч. Адразу заўважыў!»

Аднойчы ў Скрыганоў ладзілася вяселле — замуж выходзіла дачка Галя. Танцы ды скокі былі такія, што ў нашай кватэры абвалілася лямпа з абажурамі. Назаўтра прыйшла жонка Скрыгана з прабачэннем і прапановай аб кампенсацыі. Дык маці з яе нічога браць не стала. Да пачатку 1970-х гадоў мы нават не замыкалі кватэры.

Але ў пісьменніцкіх сем'ях існавала строгая дысцыпліна. Усе дзеці, якія жылі ў пад'ездзе, ведалі сваё месца. Немагчыма ўявіць, каб яны чапляліся да дарослых, калі тыя працавалі за сталом, або качаліся па падлозе, штосьці сабе патрабуючы. Але самай узорнай у гэтым плане была сям'я Янкі Брыля.

**ТЗ:** Ніна Міхайлаўна, жонка Івана Антонавіча, скончыла польскую гімназію, потым інстытут замежных моў. Выкладала англійскую мову ў фізікаў. Аднойчы я паскардзілася, што трэба вучыць латынь. У адказ яна прачытала на памяць на латыні прамову Цыцэрона супраць Кацыліны. Сам Брыль з вялікай увагай ставіўся да дзяцей. Адпачываючы на Нарачы, вучыў нас, як зрабіць будан ці партызанскую печку, дзе можна раскладваць вогнішча. А часам мог зрабіць шырокі жэст і купіць усім дзецям марозіва.

**ВН:** Асаблівай тэрыторыяй у кватэрах быў пісьменніцкі кабінет, куды заходзіць забаранялася. Але ўнукам дазвалялася. Аднойчы ў нас сабраліся госці. Усіх дзяцей адправілі ў кватэру Гілевічаў, каб не перашкаджалі. На стале ў кабінеце стаяла машынка, а на ёй — няскончаны верш. Сястра ўзяла — дый завяршыла, у рыфму. Ды яшчэ і непрыстойным словам (ср**а). Потым Гілевіч доўга рагатаў. Але яго жонка, Ніна Іванаўна, на наступны дзень прыйшла даведвацца, хто гэта зрабіў. Мы Таню не выдалі, але бацькі самі здагадаліся.

### Галоўнае захапленне — літаратура

**«НН»: Бадай, самы вядомы жыхар дома — Уладзімір Караткевіч…**

**ВН:** Ён пераехаў у дом у 1971 годзе з жонкай і маці. Пісьменніку дасталася трохпакаёвая кватэра №22, якая мела цікавую гісторыю.

**ТЗ:** Спярша там жыў паэт Усевалад Краўчанка. А потым пераехаў у кватэру №4, дзе было ўсяго два пакоі. Відаць, хацеў мець ніжэйшы паверх. Але падчас вандроўкі беларускіх пісьменнікаў за мяжу Краўчанка трагічна загінуў у Францыі. А сям'я засталася ў двухпакаёўцы. Пазней у кватэры №22 жыў Ян Скрыган. А ўжо пасля яго — Караткевіч.

## Столі ў доме высачэзныя — аж 2,95 метра

**ВН:** Некалькі разоў даводзілася заходзіць да яго на кватэру. Аднойчы Валянціна Браніславаўна (жонка Караткевіча — **«НН»**) папрасіла рабіць Уладзіміру Сямёнавічу ўнутрымышачныя ін'екцыі. Скажу вам, што за 30 гадоў працы не сустракала больш далікатнага стаўлення да медыка, чым гэта было ў Караткевіча. З ім звязаны яшчэ адзін цікавы ўспамін. На 8 Сакавіка ў нашыя дзверы маглі пазваніць. Прыходзіў Караткевіч: у цюбецейцы, халаце, з падведзенымі вачыма. Дарыў жанчынам гвазДзікі, цалаваў дамам ручкі і шоў да наступнай кватэры.

**ТЗ:** Цікава, што Ян Скрыган калісьці пагаліў галаву і летам таксама хадзіў у цюбецейцы, з кіем, заўсёды выглядаў як пан.

**ВН:** З Караткевічам была звязана яшчэ адна гісторыя. Напрыканцы 1979 памерла матчына цётка, якая пражыла 100 гадоў. Маці рабіла жалобны стол. Раптам прыйшоў Караткевіч і кажа: «Ядвіга Паўлаўна, у цябе смачна пахне, а мне трэба ўзяць чарку. Але так, каб Валька (Валянціна Браніславаўна — **«НН»**) не ведала. Налілі яму чарку. «Ядвіга Паўлаўна, — кажа Караткевіч, — каб у цябе не памерла цётка, я б з цябе ў тры разы больш браў».

**«НН»: Якім было галоўнае захапленне жыхароў дома?**

**ВН:** Літаратура! Дом будаваўся з улікам таго, што ў пісьменнікаў вялікія асабістыя бібліятэкі, бо кнігі любілі ці не ўсе жыхары. Мой бацька і брат наогул чыталі як апантаныя. Такі ж фанатызм быў уласцівы ім і ў пошуках кніг. Памятаю, у 1982 годзе паехала з бацькам у Латвію, у Дом творчасці. Але ў Рызе ён зайшоў у букіністычную краму. Дык замест таго, каб паглядзець горад, мы ўвесь дзень правялі там. Потым я тыдзень адпраўляла кнігі па пошце ў Мінск.

**ТЗ:** Праўда, аднойчы любоў да кніг сыграла з нашымі суседзямі дрэнны жарт. Расказвалі, што ў 1960-я гады ў сына Піліпа Пестрака знайшлі асобнік «Доктара Жывага» Пастарнака. Потым і ў сына, і ў бацькі былі вялікія непрыемнасці.

**ВН:** А мой бацька, калі ехаў за мяжу, карыстаўся службовымі прывілеямі. І мог прывозіць усе забароненыя кнігі, але на замежных мовах. Аднойчы гэта літаральна выратавала майго брата. Ён здаваў іспыт выкладчыцы, якая імкнулася яго «заваліць». Спытала, ці чытаў «Уліс». Калі адказаў «так», радасна паведаміла, што на рускай кніга не выходзіла. А брат адказаў, што чытаў па-ўкраінску.

### Па суседстве з уладай

**«НН»: Побач з домам на Маркса, 36 — будынак ЦК КПБ (цяпер Адміністрацыя прэзідэнта). Ці адчувалася блізкасць улады?**

**ВМ:** Ніякай аховы не было. У часы Машэрава свабодна ездзілі побач з рэзідэнцыяй па Энгельса і Маркса, заязджалі ў двор адкуль заўгодна.

**ТЗ:** Дарэчы, раней між домам Маркса, 36 і суседнім, па Энгельса, 18, знаходзіўся чорны ход. По-

**Колькі каштуюць**

У доме на Маркса, 36 прадаюцца дзве кватэры. За двухпакаёўку плошчай 56 м² просяць $230 тысяч ($4100 за м²). За трохпакаёўку плошчай 89 м² — $280 тысяч ($3150 за м²).



Інтэр'еры двухпакаёўкі, выстаўленай на продаж.

# пісьменнікаў


Кіёчкі, з якімі хадзілі пісьменнікі.


Рукапісы Аляксея Зарыцкага.

тым яго закрылі і зрабілі краму гадзіннікаў.

**ВН:** Насупраць дома, побач з Маркса, 39 (там таксама ўваход у метро), стаяла будка з міліцыянерам. Вось і ўся ахова.

**ТЗ:** Цяпер побач з нашым домам знаходзіцца кінатэатр «Піянер». Яго пачалі будаваць у 1964 годзе і адкрылі праз пяць гадоў. А раней на яго месцы знаходзіліся гаражы ЦК КПБ. На двор выходзіла толькі сцяна. Дзеці залазілі на нахілены дах і каталіся з яго, нібы з гары.

**«НН»: Ці шмат жыхароў дома мелі ўласныя аўто?**

**ТЗ:** Наогул машын у двары было мала. Першае аўто, нямецкі трафейны Opel Kadett, у сярэдзіне 1950-х гадоў купіў сабе пісьменнік Макар Паслядовіч. Цікава: маці яго будучай жонкі, Ядвіга Усцінаўна, не жадала іх шлюбу, бо зяць быў праваслаўны. Дык Паслядовіч выкраў сваю нявесту з дому. Пазней з'явіліся машыны і ў іншых жыхароў. Аляксей Зарыцкі прыдбаў «Масквіч», Кастусь Кірэенка, Тарас Хадкевіч, Пятро Глебка і Іван Шамякін — «Волгу», Усевалад Краўчанка — «Пабеду».

Кірэенкі і Зарыцкія мелі ў двары гаражы. У Кірэенкі ён быў паўкруглы, з яго было вельмі зручна катацца...

Насупраць нашага дома знаходзіўся невялікі будынак Саюза пісьменнікаў, дзе падчас вайны забілі Вільгельма Кубэ (потым у 1976-м будынак знеслі, каб пашырыць гмах ЦК КПБ). Хтосьці сказаў Кірэенку, які знаходзіўся ў Саюзе пісьменнікаў, што ў гараж залезлі злодзеі. Ён кінуў усе справы, прыбег — і ўбачыў дзяцей сваіх суседзяў.

## Як чыноўнікі спрабавалі захапіць дом

**«НН»: Жыллё ў цэнтры заўжды лічылася прэстыжным.**


Бібліятэка Івана Навуменкі.

З беларускіх пісьменнікаў у доме жылі Янка Маўр (кватэра №1), Максім Лужанін (№5), Рыгор Семашкевіч (№16), Васіль Вітка (№19), Іван Мележ, пазней Пятро Глебка (№20), Іван Шамякін, пазней Іван Навуменка (№21), Ян Скрыган, пазней Уладзімір Караткевіч (№22), Янка Брыль, пазней Вячаслаў Адамчык (№23).

Дагэтуль нерухомасць у доме маюць Ніл Гілевіч і Уладзімір Някляеў.

**Ці спрабавалі яго забраць?**

**ВН:** Чыноўнікі даўно паглядалі на наш дом. Але ў нас няма ліфтаў, а ў большасці кватэр малыя кухні. А прычына тут простая. За будаўніцтва адказвала легендарная Фані Яфімаўна Алер, якая падчас вайны была дырэктарам Купалаўскага тэатра, а пазней ўзначальвала Літфонд. Паколькі яна з'яўлялася партыйнай жанчынай, дык зусім не цікавілася побытам. Таму памер кухні быў для яе неістотным.

Спробаў экспрапрыяцыі было некалькі. Аднойчы па доме пайшла расколіна. Чыноўнікі хуценька заявілі: маўляў, трэба ўсіх перасяляць. Але на 1-м паверсе жыў унук Якуба Коласа і Янкі Маўра, інжынер па адукацыі. Разам з жонкай ён сабраў камісію. Высветлілася: невялікая расколіна ідзе па 4 і 5 паверхах і небяспекі няма.

**ТЗ:** З кватэрай, у якой жыў Янка Маўр, звязаныя цікавыя гісторыі. Сям'я пісьменніка першай набыла тэлевізар. Таму ўсе дзеці прыходзілі да яго ў госці і глядзелі перадачы. А яшчэ пад вокнамі кабінета Маўра знаходзіўся падвал з касым навесам, з якога мы каталіся. А пісьменнік ніколі не скардзіўся, хоць мы яму і перашкаджалі.

**ВН:** Дарэчы, пра падвал. Кватэру Максіма Лужаніна ў доме атрымаў начальнік аднаго з мінскіх ЖЭСаў. Дык ён выкінуў з падвалаў на вуліцу ўсю маёмасць, якая там знаходзілася (Уладзімір Някляеў там захоўваў мэблю і веласіпед), а падвал прадаў камерцыйным структурам.

**ТЗ:** Другая спроба мела месца, калі ў Мінску пачалося будаўніцтва другой лініі метро. Дом пачалі перабудоўваць, каб зрабіць на тарцы ўваход на станцыю «Купалаўская». Раней на яго месцы таксама была тэрыторыя крамы (цяперашнія «Веды» называліся «Паліткнігай»). Улада прапанавала некаторым жыхарам пераехаць і атрымаць замест адной невялікай кватэры дзве, але на ўскраіне. Некалькі сем'яў згадзілася, але астатнія засталіся.

**ВН:** Сёння асобныя кватэры ўжо прададзены. Напрыклад, кватэра Мележа, дзе пісаліся знакамітыя «Людзі на балоце», належыць нейкаму масквічу. Ці захаваў ён усё, як было? Не... Прапановы наконт продажу часта паўтараюцца. Калі памёр Іван Якаўлевіч, адзін чыноўнік не пасаромеўся завесці размову нават на пахаванні. Пазней з такой самай прапановай прыходзіла шмат лістоў, пісалі нават сведкі Іеговы. Але не магу прадаць кватэру, дзе прайшло ўсё жыццё. Для мяне нават падлога і дзверы рыпяць так, як у дзяцінстве...

## Да пачатку 1970-х гадоў жыхары дома нават не замыкалі кватэры.


Расказвае Валерыя Іванаўна Навуменка.

**Гутарыў Максім Кавальскі.**
**Фота Сяргей Гудзіліна.**

# Дзяўчына, якая плача

Піша **Зміцер Дашкевіч**.



**Зміцер Дашкевіч прэзентуе кнігу турэмных твораў**

21 сакавіка на сядзібе БНФ у Мінску: (Чарнышэўскага, 3-39) адбудзецца прэзентацыя кнігі Змітра Дашкевіча «Чарвяк». У зборнік увайлі творы, напісаныя у турмах і калоніях у 2006--2013. Пачатак а 18-й.

«Дзіўна — нікога», — падумаў я, падышоўшы да гмаха расейскай амбасады ў Менску. Спыніўся ля брамы, глянуў на гадзіннік — 14.00. «Дзіўна». Націснуў на кнопку званка.

— Слушаю, — раздаўся голас з брамы.

— Я хацеў бы перадаць зварот у амбасаду.

— Что за «зварот»?

— Зварот супраць расейскай агрэсіі ва Украіне.

— Мы сегодня не роботаем, приходите завтра.

Я пачаў нешта тлумачыць, што да заўтра чакаць ніяк не выпадае, але брыгада брытагаловых была ўжо побач.

— Дашкевіч?

— Дашкевіч.

— Дзмітрый Вячаслававіч?

— Дзмітрый Вячаслававіч.

— Пройдзем для высвятлення асобы.

— Якое высвятленне? Дашкевіч жа, Дзмітрый Вячаслававіч.

— Трэба ўдакладніць.

— Дык мо пашпарт даць на ўдакладненне?

— Не, пашпарт не трэба, трэба ўдакладніць асобу ў райаддзеле.

— Ага, ведаю я, чым скончваюцца вашыя райаддзелаўскія ўдакладненні.

— Пайшлі-пайшлі! — незадаволена раўнуў главар брытагаловых і ўзяў мяне пад руку. Мы пасунуліся да аўтазака.

— Як я стаміўся ад усіх вас, бандытаў, — выдыхнуў я па хадзе. — Няхай пакарае вас, зладзеяў, Бог. Дзень і ноч малітва мая за гэта, каб вас, зладзеяў, пакараў Госпад.

— А хіба можна караць людзей? — спужаўся адзін з брытагаловых, што ішоў па іншы бок ад мяне.

— А як жа не судзіць Богу злодзеяў, калі «аснова трона Яго — праўда і суд».Чытай Біблію — там пра цябе шмат напісана.

— І што напісана?

— Напісана, што «Ён будзе судзіць бедных па праўдзе і дзеі пакутнікаў зямлі рашаць паводле ісціны, і жазлом вуснаў сваіх заб'е нечысціўца». А нечысціўцы на сённяшні дзень — гэта вы ўсе, зладзеі ў пагонах.

— Не ведаю, ці пагадзіліся нечысціўцы з тым, што яны нечысціўцы, але далей мы ішлі моўчкі. Зайшоўшы ў аўтазак, я зразумеў, чаму нікога ля вавілонскіх муроў белакаменнай не было — усе ўжо даўно былі «па месцы». З прысутных я мала каго ведаў, мо толькі пару маладафронтаўцаў, якія, як людзі спрактыкаваныя, лішніх пытанняў не задавалі — яны ведалі, што гэта за прапанова такая: «Вы затрыманыя да высвятлення асобы». Людзі ж староннія ці не асабліва прывыкшыя да гэткага глуму не задаваць пытанняў не маглі.

— Па якой прычыне я тут знаходжуся? — агучыла лагічнае здзіўленне адна з дзяўчын.

— Да высвятлення асобы, — нахабна прабухцеў маладзявы «ваяка» з нашыўкаю «ОМОН».

— Дык я ж дала вам свой пашпарт — высвятляйце і вызваляйце.

— Ты мне нічога не давала.

— Як так, нічога?! — абурылася затрыманая і паднялася. — Усё, я тут больш знаходзіцца не збіраюся!

— Э, пастой, — прасіпеў той, — бо я цябе зараз угаманю тут на лаве гэтай.

— А што ты яшчэ можаш, храпа з дубінаю, як не дзяўчат пужаць у аўтазаках? — не вытрымаў мразоцтва ўжо я сам.

— Ты сачы за базарам, чмо, — вызверыўся шчанюк і на мяне. — Разоў пару прапішу зара, забудзеш, як завуць.

— За базарам сачы ты, свіння неабучаная, — не саступаў у борзасці і я. — Перад табою дзяўчына, а ты: «угаманю», «забейся».

— Давайце «цішыня тут»! — падняўся з іншага боку лавы амапаўскі брыгадзір і падышоў у сярэдзіну салона, стаўшы перада мною.

Дыскусія была вычарпаная. Я моўчкі схіліў галаву над рукамі; дзяўчына, агаломшаная ад аўтазачных нораваў, прысела назад на лаву; ваяка з пушком пад носам яшчэ нешта там вырыгаў, але я на гэта ўжо не звяртаў увагі. У аўтазаку разгаралася новая дыскусія, менавіта па той тэме, якая нас усіх і сабрала ў адным месцы — гаворка пра Расею і Крым.

Бабуля Аўгіння Багінская, заўсёдная ўдзельніца пратэставых акцый, даказвала, што Расея непазбежна развaліцца; амапаўцы з гэтым не спрачаліся, але даводзілі, як бы яны закаталі ў бетон «бендэраўскі Майдан», калі б іх туды завезлі.

— Танкамі душыць вас, падонкаў прадажных!

— Ну, наёмнікаў панавезлі амерыканскіх і думаюць Крым захапіць, як захапілі Кіеў. Не пройдзе! Крым Расея не аддасць!

— Ды паў-Украіны адваюе Расея і што ёй зробяць? Перакрые газавы кранік — і прыпаўзуць амерыкосы гэтыя на каленях!

Брытагаловыя сыходзілі на пену, але на беснаванні гэтыя ніхто не рэагаваў — і шал іхні, не знаходзячы сілкавання, паступова сыходзіў на нішто.

Насупраць мяне сядзела дзяўчына, веку блізу такога ж, як і ўмоўна незалежная Беларусь. Плечы яе сутаргава ўздрыгвалі, па шчоках цурчэлі слёзы. Яна то падносіла руку да твару, каб прыкрыць вочы, то апускала галаву, трошку супакойваючыся.

Глядзець на гэтыя слёзы было цяжка. Я то круціў галавою, то апускаў яе долу. То разглядаў хлопцаў, якія з усмешкаю даказвалі, быццам старонняя прахожыя, то, крывячыся, паглядаў на расейскага консула, што трапіў пад раздачу і заклікаў падпарадкавацца «законнай уладзе». Тым часам Аўгіння Багінская па сваёй традыцыі заспявала, гэтым разам пра «чорную зграю».

Чорная зграя топча Айчыну,
Пнецца зламаць нас, збіць, скатаваць,
Толькі адвага нас не пакіне:
Продкі-ліцвіны ўслед нам глядзяць!
Хопіць трываць ганьбу і здзек,
Стань, Беларусь, вольнай навек!
Хопіць цярпець гвалт і прымус!
Воля ці смерць! Жыве Беларусь!

Я слухаў і глядзеў на дзяўчыну, якая ўсё плакала. Так балюча было глядзець на гэтыя поўныя гора вочы і так няёмка, што я не разумеў, як сябе паводзіць. Урэшце падняўся, падышоў да дзяўчыны і крануўся яе пляча.

— Не плачце, Госпад іх пакарае, — прамовіў я, на што дзяўчына патрэсла галавою і, зноў прыкрыўшы вочы рукою, заплакала яшчэ мацней.

Зрэшты, іншае рэакцыі быць і не магло — калі ты дакранаешся да ранаў душы, яна заўсёды скаланаецца ў плачы яшчэ большым. Але і не паспрабаваць суцешыць чалавека я таксама не мог.

— Ты проста маліся, — працягваў я, — маліся, каб Ён явіў Сваю справядлівасць. Не плач, гэта ўсё дробязь — затое перад Госпадам заўсёды зможам сказаць, што, калі зладзеі зладзейнічалі, мы не маўчалі — мы ўздымалі свой голас супраць. А гэтыя нечысціўцы сваё знойдуць. Не плач, проста маліся, — паўтарыў я, сам ледзь перамагаючы сябе, каб не заплакаць.

— Так, я малюся, — прамовіла дзяўчына ўсхліпваючы. — Мне проста сорамна, што я жыву ў такой краіне.

Я не ведаў, што можна было яшчэ сказаць... Мне самому вельмі сорамна, што я жыву ў такой краіне. Мне сорамна, што столькім людзям усё пофігу. Мне сорамна, што рабскае пакаленне не разумее, што свабода — Божы дар кожнаму, рыкае: «Душыць танкамі!» Мне сорамна, што сядзіць у аўтазаку гэтая чыстая, без пафасу гэтага слова — святая дзяўчына, душа якой разрываецца за тое, што ёй сорамна, сорамна за ўсе дзесяць мільёнаў.

У райаддзеле маю асобу высветлілі, і я быў абвінавачаны ў тым, што лаяўся матам і супраціўляўся законным патрабаванням міліцыі. Зрэшты, нічога новага ў гэтым няма. Для нашай «законнай улады» няма. Новым для мяне было толькі тое, што на наступны дзень мне прапанавалі ехаць у суд у багажніку «Газелі». Я ад такіх інавацыяў паспрабаваў быў адмовіцца. Праз дзесяць хвілін валтузні на асфальце мне натаўклі ў рэбры, закавалі ў кайданкі і змясцілі ў салон. Дамогся свайго. Змясцілі, праўда, на падлогу. З разлёту. Нагамі ўтрамбаваўшы пад стол. І галоўны законнік — ён жа пераможца — паставіў на мяне ногі — і я паехаў-такі як чалавек, не ў багажніку.

Я ляжаў на баку, кайданы невыносна рэзалі рукі, два берца прыціскалі да падлогі. Упёршыся галавою ў борт, спрабаваў не стагнаць ад болю і ад крыўды. Ад крыўды за тое, што 20 год уздымаюцца нечысціўцы і злодзеі, якія не баяцца ні людзей, ні Бога, на якіх ніякае ўправы няма і ніякага суду. І не проста ўздымаюцца яны, а ўздымаюцца ганарліва, кплючы з цябе і ставячы на цябе ногі.

Не, хацелася не стагнаць, хацелася проста выць. І я ўзгадаў тую дзяўчыну, якая плача ў аўтазаку. У памяці паўсталі адны з самых маіх любімых словаў Давіда: «Хто са слязьмі сеяў, пажынацьме з радасцю. Хто з плачу нясе насенне, вернецца з радасцю, несучы снапы свае».

Госпадзе, даруй грахі зямлі нашай, бо многія з іх амытыя слязьмі тае і тысяч іншых дзяўчын, каторыя плачуць з-за таго, што ім сорамна жыць у такой краіне.

## Сярод ахвяраў з Майдану пабачыла аднакласніка

Крыўда сціскала сэрца, калі ў нумары ад 26 лютага я чытала пра Майдан. Колькі маладых жыццяў абарвалася!

І раптам вочы вырвалі з тэксту знаёмае імя — Якаў Зайко з Жытоміра. Гэта ж Яшка! Мой аднавясковец і сябар дзяцінства!

Ён, як і я, нарадзіўся ў Беларусі, у в. Далятычы Любчанскага (цяпер Навагрудскага) раёна. Мы разам вучыліся ў Далятыцкай сямігадовай школе, пабудаванай па праекце яго бацькі замест той, якую спалілі ў вайну. У пачатку 60-х іх сям'я пераехала ў Жытомір, ва Украіну.

Даходзілі чуткі, што Яша закончыў Жытомірскую школу з залатым медалём, паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт на факультэт журналістыкі, стаў літаратарам. У 1990—1995 гг. быў народным дэпутатам Украіны.

І калі ў эфіры гучыць, што на Майдан выйшлі тэрарысты, я не веру! Якаў Зайко не стаў бы ў іх шэрагі! Ён пражыў большую частку жыцця ва Украіне і загінуў за яе светлую будучыню.

**Лілія Некраш (Рымар), родам з Далятыч (Навагрудскі раён)**



## «Можам зрабіць так, быццам ты лаяўся матам»

У ноч з 21 на 22 лютага быў на шоу «Армін Онлі» ў «Мінск-Арэне». Недзе каля другой ночы ў холе заўважыў, як амапавец гучна лаецца матам. Падышоў да яго і зрабіў заўвагу, што так нельга сябе паводзіць. На што ён сказаў: «Вы затрыманы».

Зваць спецназаўца Максім Пятроў, потым ён падазваў старшага па званні Уладзіміра Падабеда. Той паводзіў сябе спакойна, выслухаў мяне і сказаў, што можа зрабіць так, быццам я лаяўся матам і скласці на мяне пратакол. Я яму адказаў, што наогул не выкарыстоўваю такіх словаў, і тады ён скамандаваў Пятрову вывесці мяне з «Арэны».

Хутка чэмпіянат свету па хакеі, а некаторыя ў нашай міліцыі паводзяць сябе як бандыты.

**Яўген Мацюк, Мінск**

**Ад Рэдактара.** У такіх выпадках варта пасылаць скаргу ў МУС. Там абавязаны разбірацца з міліцыянтамі, якія самі парушаюць закон.

## «Перадайце Шаршуну»

Выпісваю газету даўно, каб не забыць родную мову, бо вакол мяне рускамоўнае атачэнне: русіфікаваныя беларускія «саўкі», якія не могуць размаўляць па-беларуску.

У №6 ад 12 лютага прачытаў артыкул Кірылы Хілько «Збілі за бел-чырвона-белы сцяг на балконе», у якім распавядаецца аб тым, як патрыёта Беларусі, жыхара Мінска, пенсіянера Віктара Шаршуна міліцыя збіла за тое, што ён вывесіў на балконе наш нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

Абурэнне і нянавісць кіпяць у маіх грудзях. У знак павагі хачу даслаць яму ў падарунак наш сцяг. Прашу даць мне ягоны адрас.

**З павагай, Уладзімір Кудраўцаў, былы рабочы, 75 год, антыфашыст, антыкамуніст, антылукашыст, Крычаў (Магілёўская вобласць)**

# Папялушка,

## альбо Карона кітайскай прынцэсы

**Уладзімір Рабіновіч.**
Апавяданне.

**Працяг. Пачатак у «НН» № 10.**

Валя паталагічна ахайная.

— Так, падзасралі кватэрку, — сказала яна ў першы ж дзень уступлення на пасаду.

Вымыла ўсё, вычысціла, выдраіла. Аніякіх уборачных інструментаў, апроч вядра і анучы, не прызнае.

— А-ме-ры-кан-цы. Усё ім трэба на пальцы. Лішні раз не хочуць нахіліцца? А як ты бруд пабачыш, калі не нахілішся?

Увесь посуд пасля пасудамыйкі перамывае рукамі.

— Аніякая дурная машына не памые, як трэба.

Перагледзела ўсе каналы ТБ. Расчаравана запыталася: «А што, рускага канала няма?»

Як жа так? Для ўсіх ёсць. Для лацінасаў — свой канал, для чорных — канал, асобны канал для підараў, а рускага няма.

Патэлефанавалі ў кампанію. Замовілі мясцовы рускі канал. Валя запісала нумар канала ў сябе ў нататнічку. Увечары, калі дзіця заснула, села глядзець.

— Не, гэта не рускі канал, — сказала яна.

— Як не рускі, па-руску ж гавораць. — Па-руску гавораць, а нічога не зразумела. Нібы ў іх ва ўсіх здымныя зубныя пратэзы.

На дзіця, маленькага Бору, накінулася з усёй сілай тугі па пакінутым у Мінску сыну. Раніца пачыналася з «камлання»: сыночак мой, разумнік мой, зайчык мой, сонейка маё, харашун мой, дзетачка мая, шчасце маё, любімчык мой...

— Нішто сабе фрустрацыя, — кажа матэматык.

У нядзелю паехала на Брайтан і на свае грошы купіла касеты: «Маўглі», «Вожык у тумане», «Карлсан», «Прастаквашына».

— А чаму «Ну, пачакай» не купілі?

— «Ну, пачакай» — такое ж гаўно, як і гэта ўсё вашае амерыканскае. Бегаюць, б'юць адно аднаго па галовах. Дзіцяці трэба добрае паказваць.

Счапілася з чорнымі тынэйджарамі, якія задумалі гуляць у футбол на пляцоўцы для маленькіх дзяцей і ўдарылі Бору ў твар мячом. Бегала за імі, лаяла страшнымі праклёнамі: «Ах ты, гавыдла чорная! Каб твае лупы на лоб павылазілі! Каб цябе трасца ўзяла, даўбень, прытырак чортаў!» Чорныя не вытрымалі напору страшнай цёткі ў бэзавым берэце, доўгім чырвоным паліто і ботах на высокіх абцасах — уцяклі.

Дзіцячую калыску Валя адмаўляе: дзіця павінна хадзіць нагамі. У добрае надвор'е — пешшу ў Central Park. Калі дзіця стамлялася, саджала на спіну і бегла з ім па Пятай авеню падскокам, удаючы каня. Бора рагатаў ад захаплення. Мінакі аглядаліся.

Тут, у Central Park, ранняй вясной 1992 года спаткаў яе шчаслівы лёс. У час шпацыру падышла да яе добра апранутая жанчына, назвала сябе Тамарай і па-руску, але з дзіўным акцэнтам спытала:

— Хочаце дарагую працу?

— Я ўжо працую, — сказала Валя.

— Колькі вам плацяць?

— Семсот на тыдзень, — прастадушна адказала Валя.

— Будзеце атрымліваць дзве тысячы і бонус, — сказала жанчына.

— Што трэба рабіць?

— Глядзець дзіця, — сказала жанчына і загадкава ўсміхнулася. — Я бачу, вы з дзецьмі добра ладзіце.

Дзіцем аказаўся 92-гадовы стары, якога звалі Ісаак. Ён жыў адзін у пентхаўсе ў велізарным білдынгу побач з Columbus Circle. Неймаверная сума — дзве тысячы даляраў у тыдзень, восем тысяч у месяц — вызначыла выбар.

Калі яна паведаміла матэматыкам, што сыходзіць (як належыць, па-людску, праз два тыдні), гаспадыня заплакала, а матэматык прамаўчаў і толькі ў апошні дзень перад самым адыходам абняў яе і сказаў, што ўсе яе вельмі любяць, што, на жаль, такіх грошай, якія ёй прапанавалі ў іншым месцы, яны даць не могуць, але калі яна перадумае, то заўсёды зможа вярнуцца назад. Зачынены ў дзіцячым пакоі, біўся і рыдаў маленькі Бора.

— Прыбіраць табе не трэба. Гэта будуць рабіць іншыя людзі. Гатаваць ежу толькі з гэтых скрыначак і строга па спецыяльных рэцэптах. Сам ён не есць, карміць яго трэба з лыжачкі, не спяшаючыся, асцярожна, так, каб ён не здушыўся. На вуліцу з ім выходзіць нельга. Шпацыраваць будзеш на даху. Ёсць ліфт для вазка. Калі што-небудзь здарыцца — патэлефануеш па гэтым нумары ў любы час, — інструктавала яе Тамара.

— Як я буду з ім размаўляць? — спытала Валя. — Я кепска размаўляю па-ангельску.

— Не турбуйся, — сказала Тамара, — ён не размаўляе.

— Не можа?

— Не, проста не хоча. Каб ты ведала, ён усё разумее, ведае некалькі моваў, проста не хоча гаварыць. Ён з Беларусі, з Рэчыцы. Яго бацькі з'ехалі, калі пачаліся габрэйскія пагромы ў 1905 годзе. Ён пражыў вялікае яскравае жыццё. Ваяваў. Некалькі разоў быў жанаты. У яго шмат дзяцей. Але ён жыве адзін. Гэтая кватэра — яго ўласнасць, і ўвесь білдынг — таксама яго.

У першы ж вечар на новым месцы Валя патэлефанавала дадому ў Мінск, каб расказаць пра сваё шчасце.

Слухаўку зняла мама. Валіна мама гаварыла па-беларуску, і ў размовах з мамай Валя таксама пераходзіла на беларускую, бо па-руску мама, якая і так была тугаватая на вуха, не тое каб не разумела, але папросту пачынала горш чуць.

— А, гэта ты, — сказала мама. — Ну, давай палаемся!

І яны з любасцю лаяліся некалькі хвілін, пакуль не скончыўся час на тэлефоннай картцы. Гэткая ў іх была дзіўная манера зносін.

Валя паклала слухаўку і раптам пачула: «Мая мамка!» Гэта плакаў і цягнуў да яе рукі з калыскі Ісаак.

— Мая мамка, дзе ты была? Я па табе так сумаваў! Вазьмі мяне на ручкі.

Важыў Ісаак няшмат, і выканаць яго просьбу для фізічна моцнай Валі было нескладана. Яна ўзяла Ісаака на рукі, пачала закалыхваць.

— Праспявай мне песеньку, — папрасіў Ісаак.

— В лесу радзілась ёлачка...

— Я гэтага не разумею, — сказаў Ісаак.

— Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі гулі сакатаць,
Трэба гулям нешта даць.
Ці ячменю жменю,
Ці жыта карыта,
Ці бобу каробу,
Ці гароху троху,
Ці ярыцы паўмяліцы,
Ці пшаніцы паўдайніцы,
А дзіцяці — цыцы.

На Валін жах, Ісаак зацмокаў губамі і пацягнуў уніз яе станік, спрабуючы вызваліць грудзі.

— Так, — сказала Тамара, — яго маці памерла ў час родаў. Іх сям'я ў Рэчыцы была вельмі заможнай. Яны ўзялі карміцельку з беларускай вёскі, якая яго выхоўвала.

— Што мне цяпер рабіць? — спытала Валя.

— Не ведаю, — адказала Тамара.

У нядзелю прыйшлі сваякі: сын Ісаака, яго жонка і яшчэ нейкія двое. Яны гаварылі па-ангельску, і Валі давялося перакладаць. Ісаак бадзёра адказваў па-беларуску, і Валя павінна была перакладаць сваякам наадварот. Усе ўшчэнт замарыліся, і ў канцы жонка сына сказала абурана:

— Як гэта ён не разумее па-ангельску? Я не магу паверыць! Ён проста дурыць нас, гэты Айзік. Ён заўсёды ўсіх дурыць, і цяпер таксама!

Валя пераклала, Ісаак весела зірнуў на жонку сына і сказаў: «Смачны струк!»

Валя згадала першыя заняткі ангельскай і пераклала: suck my dick.

Абураныя сваякі сышлі.

Мінула два месяцы. Дзякуючы заняткам у якасці перакладчыка, Валіна ангельская значна палепшылася. Яна перакладала лекарам, адвакату, сваякам.

Для Ісаака быў вызначаны строгі рэжым дня: сняданак, абед, вячэра, шпацыры на даху хмарачоса ў невялікім парку з травой, хмызамі і дрэвамі. Калі Ісаак капрызіў, не слухаўся і парушаў рэжым, Валя карала яго — пазбаўляла цыцы.

Зрэдку заходзіла Тамара. Убачыўшы, што Ісаак стаў вылазіць з вазка і шпацыраваць па кватэры на сваіх нагах, Тамара сказала: «Малайчына, Валя, я ў табе не памылілася».

За два месяцы да смерці Ісаака Валя патэлефанавала мне і сказала:

— Патрэбныя казкі на беларускай мове.

— Беларускія, на беларускай мове? Дзе я табе гэткія знайду? А чаму менавіта на беларускай?

— Ён па-руску не разумее.

— Па-беларуску разумее, а па-руску — не?

— Так, можаш сабе ўявіць, ён разумее па-беларуску, а па-руску не разумее. Я так замарылася з ім! Пакласці яго ўвечары спаць без казкі папросту немагчыма.

— Не ведаю, дзе ў Нью-Ёрку можна ўзяць казкі на беларускай мове. Замаўляй з Мінска.

Тоўстую кнігу беларускіх народных казак адправіў з Мінска Валін муж тэрміновай дарагой поштай, і ўжо праз тыдзень, седзячы ля Ісаака, які ўжо засынаў, Валя чытала: «У адным двары было надта многа пшаніцы, а тую пшаніцу вазілі ўвесь час да нейкага месца. Адзін жа чалавек не меў каго выправіць з тою пшаніцаю. Дык ён прыбраў сваю дачку па-мужчынску і выправіў яе ў дарогу...»

— Ці шмат яшчэ казак засталося? — пытаўся Ісаак кожны вечар перад сном.

— Яшчэ шмат, — адказвала Валя.

— Не спяшайся, хай будзе адна ноч — адна казка.

У той вечар, калі Валя прачытала апошнюю казку, Ісаак памёр.

Раніцай прыйшла Тамара, пагладзіла па галаве Ісаака і сказала: «Ну вось і ўсё». Валя ўсё зразумела і заплакала.

— Не плач, — сказала Тамара. — Гэта найлепшая смерць з усіх магчымых — у сне. Ісаак упісаў цябе ў тэстамент?

— Я не прасіла, ён сам захацеў. Сказаў, што яго сваякі і так забяспечаныя людзі, а мама Валя нічога не мае.

— Дарэмна вы гэта задумалі, — сказала Тамара

— Мы ўсё рабілі правільна, з адвакатам.

— У іх у сям'і два сваіх адвакаты. Ты будзеш з імі судзіцца? Ты ў краіне нелегальна. Ты пратэрмінавала візу два гады таму. У цябе няма права на працу. Ты атрымліваеш свой заробак наяўнымі і не плаціш падаткі. Цябе могуць папросту арыштаваць і дэпартаваць.

— Хто ты? — спытала Валя.

— А ты яшчэ не здагадалася? — адказала Тамара.

— Яны ведаюць, што я нелегальна? — запыталася Валя.

— Ды ведаюць.

— Чаго яны хочуць?

— Яны хочуць, каб ты адмовілася ад тэстаменту.

— І што?

— Атрымаеш грошы.

— Колькі?

— Мільён.

— Я згодная, — сказала Валя.

— І яшчэ, пасля таго, як атрымаеш грошы, ты павінная неадкладна з'ехаць.

— Ды я і сама ўжо збіралася. У мяне там сын расце без мамы і муж невядома чым займаецца...

— Усё, я гатовая, — сказала Валя.

Яна стаяла перада мной у бэзавым берэце, чырвонай балоневай куртцы і карычневых ботах на высокіх абцасах.

— Ох, Валечка! — усклікнуў я, вернуты ў мінулае настальгічнай палітрай. — Дзе ты ўсё гэта два гады захоўвала?

— Слу-хай, — праспявала яна, — у нас яшчэ чатыры гадзіны да флайта. Давай па дарозе заедзем у Манхэтэн, у Чайнатаўн.

— Не магу адмовіць табе ў апошнім жаданні.

Гэта была пятніца, другая палова дня. У Манхэтэне стаяў нечуваны трафік. Калі мы пад'ехалі да Canal street, я запанікаваў.

— Валечка, я тут нідзе не запаркуюся. Я стану на даблпаркінг. Калі мяне згоняць мянты, я зраблю кола і вярнуся назад. Бяжы, вазьмі што табе трэба, толькі хутка. Улічы, што ты мусіш быць на рэгістрацыі не пазней чым за гадзіну да адлёту.

Два разы паліцэйскія праганялі мяне. Я зразумеў, што яны прыкмецілі маю машыну і што на трэці раз я атрымаю штраф. Я спыніўся каля дзвярэй ювелірнай крамы, за якімі паўгадзіны таму знікла Валя, і пасігналіў. Амаль адразу з крамы выскачыла Валя са скрынкай у руках, звалілася на заднее сядзенне і сказала: «Ну, цяпер усё».

— Валечка, чаму так доўга?

— Не хацелі прадаваць, гады. Казалі: «Гэта выставачны экзэмпляр. Існуе ў адзіным асобніку. Не для продажу». Я іх пытаюся: «А чаму тады бірка з цаной?» А яны гавораць, што гэта, маўляў, так, «для понту». Карацей, старгаваліся на double price.

— Ды што гэта, што там у цябе?

— Вось, глядзі, — сказала яна і адкрыла скрынку.

Там, у цёмнай аксамітнай глыбіні, ляжала залатая карона кітайскай прынцэсы.

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль цэпелінаў

**У рэстаране «Кухмістр» (Маркса, 40)** ад 14 да 24 сакавіка штовечар а 19-й майстар-класы па прыгатаванні цэпелінаў — беларускіх бульбяных клёцак.

## КАНЦЭРТЫ

### Кася Камоцкая і Алесь Камоцкі

**21 сакавіка рок-князёўна Кася Камоцкая і легенда аўтарскай песні Алесь Камоцкі** ладзяць супольны вясновы канцэрт у ДК ім. Шарко (Уральская, 3). Пачатак а 19-й.

### «Верасень» і The Moonshiners

**21 сакавіка а 19-й у клубе «Салтайм» (Незалежнасці, 131/1)** граюць гурты «Верасень» і The Moonshiners.

### Alai Oli

**22 сакавіка ў клубе «Re:public» (Прытыцкага, 62)** «няправільнае рэгі» зайграе гурт Alai Oli. Пачатак а 19-й.

### «Касіяпея»

**24 сакавіка а 19-й у паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурту «Касіяпея».

## ВЫСТАВЫ

### Логасы. Тое, што робіць нашае жыццё камфортным

**Праект «Логасы. Тое, што робіць нашае жыццё камфортным»** Канстанціна Селіханава прадстаўлены ў галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А). Гэта мастацкая размова пра тэксты, важныя словы і паняцці. Праз арт-аб'екты, злучаныя ў інсталяцыю, сувязь паміж тэкстам — формай — зместам становіцца відавочнай. Мастак размаўляе з дапамогай метафар, і метафары становяцца візуалізаваным логасам.

### Літоўская фатаграфія праз пакаленні

**У Галерэі Савіцкага (пл. Свабоды, 15)** працуе выстава, прымеркаваная да 80-годдзя літоўскага Саюза фотамастакоў. На ёй можна пабачыць працы трох пакаленняў літоўскіх фатографаў: даваенную фатаграфію, класіку 50—80-х, прызнаных майстроў сучаснасці. Менавіта літоўскія фотамастакі змянілі савецкае фатаграфічнае мысленне: ад адзінкавых здымкаў з вылучаным сюжэтным элементам кадра яны перайшлі да шматпланавых кампазіцый і тэматычных цыклаў.

























### Cirque du Soleil

**Ад 20 да 24 сакавіка ў «Мінск-Арэне»** плануецца сем выступаў легендарнага Cirque du Soleil з праграмай Dralion.

### Штучнае асвятленне. Клара і Роза

**Праект «Штучнае асвятленне. Клара і Роза»** — гэта творчы зварот да тэмы гендэрнай міфалогіі. Праект апелюе да двух аспектаў: першы — штучнае асвятленне — зварот да «медыя-свята», у якім і ствараюцца гендэрныя міфы; другі — асобы Клары Цэткін і Розы Люксембург. У рамках выставы таксама экспануецца фотапраект Мікалая Бацвіннніка «Rosenhaus», які дэманструе яго ўласны погляд на жанчын-мастачак. Выстава праходзіць у Музеі сучаснага мастацтва (Незалежнасці, 47).

## ТЭАТРЫ

### 20 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Юнага гледача** — Пан міністр

### 21 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Французскі капрыз
**Лялек** — Ладдзя роспачы
**Оперы і балета** — Сем прыгажунь
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

### 22 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Адэль, А мне не сорамна!..
**Купалаўскі** — Дон Жуан, Чорная панна Нясвіжа
**Лялек** — Кот у ботах
**Оперы і балета** — Яўгеній Анегін
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 23 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Воўк-мараплавец, Нязваны госць
**Лялек** — Марынка-крапіўніца
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Оперы і балета** — Баядэрка
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 24 сакавіка

**Лялек** — Чароўныя падарункі
**Юнага гледача** — Кот у ботах

### 25 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі, А мне не сорамна!..
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Оперы і балета** — Лятучы галандзец
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

## КІНО

### Збег ад рэальнасці

Кангрэс
Драма, фантастыка, анімацыя
**Рэжысёр:** Ары Фольман
**У ролях:** Робін Райт, Харві Кейтэль, Пол Джамаці, Кодзі Сміт-Макфі, Дэні Х'юстан
Ізраіль, Германія, Польшча, Люксембург, Францыя, Бельгія
122 хв.

Беспрацоўная актрыса Робін, маці дваіх дзяцей, атрымлівае апошнюю ў сваёй кар'еры прапанову ад кінастудыі «Мірамаўнт» — зрабіць лічбавую копію сябе, каб выкарыстоўваць яе ў фільмах, на тэлебачанні, а пасля і ва ўяўленні людзей. Некалькі акцёраў ужо пагадзіліся, і ахвотных становіцца ўсё больш. Да чаго прывядзе такая магчымасць праз 20 гадоў, калі кожны зможа неадрыўна знаходзіцца ў сваіх марах?
Антыўтапічная стужка Фольмана заснавана на кнізе Станіслава Лема «Футуралагічны кангрэс». Відаць, рэжысёр натхняўся апісаным там ладам грамадства, бо менавіта ў ім адбываюцца падзеі фільма. Сама стужка расказвае прыватную гісторыю актрысы, якая вымушана аддаць свой вобраз для эксплуатацыі рэвалюцыйнай кінаіндустрыяй і адмовіцца ад свайго паклікання. А праз 20 год — шмат у чым дзякуючы гэтай тэхналогіі — грамадства змяняецца настолькі, што чалавецтва дзеліцца на два светы: уяўны свет мараў і несуцяшальную рэчаіснасць. Фільм прагназуе чалавечую дэградацыю праз прагу відовішчнасці і эгаізм.

**Настасся Уласава**



# «Ляпіс Трубяцкі» спыняе існаванне

**Сяргей Міхалок** звярнуўся да прыхільнікаў.



Нечаканая навіна 17 сакавіка з'явілася на афіцыйным сайце гурту «Ляпіс Трубяцкі». Лідар каманды Сяргей Міхалок паведаміў, што ад 1 верасня 2014 года гурт прыпыняе сваё існаванне.

Трэба адзначыць, што сам відэазварот быў зроблены ў тыповай для Міхалка манеры: музыка вёў «жывы рэпартаж» з Лазурнага ўзбярэжжа Францыі, дзе і было прынята рашэнне. Сярод прычын называюцца наступныя.

«Пад ціскам ізраільскіх Ляпісаў, я склаў з сябе рок-карону, зняў мантыю найвялікшага рок-клоўна ў гісторыі і распускаю гурт «Ляпіс Трубяцкі». І дзякуй Богу, —кажа Міхалок. — Самае ганебнае, пошлае і бязглуздае, што можа адбыцца з рок-гуртом, — гэта сустрэць 25-гадовы юбілей».

Музыкі плануюць адыграць вясеннія і летнія сэты, а пра далейшыя планы паведамяць у адмысловым «тэстаменце» «Ляпісаў».

Гурт быў заснаваны ў верасні 1989, некалькі разоў змяняў свой стыль — ад клоўнскага панка і паўпарадыйнага шансону, да напружанага ска і палітычных праклямацый. Пасля альбома «Капітал», які выйшаў у 2007, гурт атрымаў «другое дыханне» і з часам стаў флагманам беларускай рок-музыкі. Пасля забароны ў 2011, калі гурт трапіў у беларускія «чорныя спісы», «Ляпісы» не змаглі даць ніводнага канцэрта на тэрыторыі Беларусі, аднак арганізавалі два адмысловыя канцэрты для беларускіх прыхільнікаў у Вільні.

У 2012 годзе, пасля выхаду кружэлкі «Рабкор», «Ляпісы» канчаткова зацвердзіліся ў ролі вострасацыяльных рокераў — альбом складаўся з песняў «на злобу дня». Апошні нумарны альбом «Матрошка» выйшаў сёлета і таксама быў прысвечаны сацыяльна-палітычнай тэматыцы, з-за якой, напрыклад, адмянілі канцэрт у Пскове — мясцовы абкам камуністычнай партыі заўважыў у песнях гурту здзек з Расіі і яе гісторыі.

Чаго чакаць ад «Ляпісаў» пасля самараспаду? Хутчэй за ўсё гурт перафарматуецца ў новы праект, таму што зараз «Ляпісы» знаходзяцца на піку формы і папулярнасці.

Прадстаўнікі гурту сітуацыю не каментуюць.

**Юрась Ускоў**

# Вікторыя Азаранка выйшла замуж?

У сацыяльных сетках некаторыя СМІ паведамляюць, што 4-я на сёння ракетка свету Вікторыя Азаранка і яе бойфрэнд, вядомы музыкант Рэдфу, 11 сакавіка таемна ажаніліся, прычым цырымонія прайшла ў вельмі сакрэтнай абстаноўцы ў прысутнасці некалькіх сяброў закаханых.

Паводле дадзеных індыйскіх СМІ, вяселле музыканта і спартсменкі магло б адбыцца ў горадзе Джайпур, дзе гэтымі днямі знаходзіцца Рэдфу.



Рэдфу 38 гадоў. Музыкай ён прафесійна займаецца амаль 20 гадоў. Вікторыі сёлета споўніцца 25 гадоў. Яна першая беларуская тэнісістка, якая стала першай ракеткай свету. У стасунках пара з 2012 года. Спачатку харызматычнага рэпера проста заўважалі на гульнях нашай суайчынніцы. «Мы доўга сябравалі, а потым Віка мяне спакусіла», —расказваў Рэдфу.

«Я закаханая, і мне не важна, як людзі ставяцца да майго выбару. Я сустракаюся з кімсьці асаблівым», — гэта ўжо словы Вікторыі. Раней Азаранка была ў адносінах з украінскім тэнісістам Сяргеем Бубкам, сынам славутага скакуна з шастом.

Праўда, мама Азаранкі, спадарыня Ала, абвергла чуткі пра вяселле дачкі.

**ЗП**

# Прэмія «Дэбют»: перамаглі Оаро, Лянкевіч, Мацiеўская і Мядзведзеў

Названыя найлепшыя кнігі маладых літаратараў за 2013 год. Сёлета пераможцамі сталі: проза — Кацярына Оаро за кнігу «Сарочае радыё» (гісторыі з жыцця маладой беларускай журналісткі, якая працуе ў незалежным СМІ), паэзія — Уладзь Лянкевіч за кнігу «70% вады» (надзвычай метафарычныя тэксты, якія «працуюць» як у спалучэнні з музыкай, так і ў паэтычнай версіі), пераклад — Кацярына Мацiеўская за «Саламею» Оскара Уайлда, а таксама Серж Мядзведзеў за «Байцоўскі клуб» Чака Паланіка.

**ЮУ**



**Кацярына Оаро жыве ў Францыі, але піша па-беларуску.**

LIT-BEL.ORG



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Чорны колер, чырвоны аловак

Праглядзеў на «Белсаце» «Размову са Святланай Калінкінай», у якой браў удзел, і, як яно часцяком здараецца «пасля бойкі», застаўся вельмі незадаволены: тое не сказаў, тое недаказаў, тое сказаў не так, а нешта і ўвогуле сказаў не тое...

Што праўда, тэма была даволі складаная — інфармацыйныя войны. На пытанне, ці ёсць пераможцы ў сённяшняй інфармацыйнай вайне паміж Расіяй і Украінай, я адказаў, што пераможцаў няма, спрэс ахвяры. І памыліўся. Ну, вось, да прыкладу — ці можна лічыць ахвярамі журналістаў партала Lenta.ru, якія не пажадалі ўдзельнічаць у інфармацыйнай вайне з Украінай, далі слова «фашысту» і салідарна са сваёй звольненай галоўнай рэдактаркай сышлі, так бы мовіць, з поля бою?

А вось іншае пытанне: ці можна лічыць пераможцамі тых дзеячаў расійскай культуры, што «цвёрда» заявілі «аб падтрымцы пазіцыі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі па Украіне і Крыме»?

Ці перамога гэта — паставіць сваё, паважанае нават у свеце, імя побач з папсовымі зоркамі, чые «думкі» — што «скакуны»?

Карэн Шахназараў, адзін са знакамітых падпісантаў, сцвярджае, што не ведаў, хто яшчэ падпісаў, увогуле яго гэта мала цікавіла, бо тэкст, які яму прачыталі па тэлефоне, цалкам адпавядаў ягонай уласнай пазіцыі.

Нішто сабе «ўласная пазіцыя», якую фармулююць чыноўнікі з Міністэрства культуры!

Не, ніякай «уласнай пазіцыі» ў тым тэксце няма.

З насамрэч уласнай пазіцыяй, калі яна не мяжуе з ксенафобіяй, шавінізмам, расізмам і заклікам да вайны, можна заставацца нязгодным, але паставіцца да яе з павагай. Як, напрыклад, да «імперскай» пазіцыі Іосіфа Бродскага ў вершы «На независимость Украины», што быў напісаны на пачатку 90-х і па зразумелай прычыне б'ецца сёння, нібы жывая істота, у сацыяльных сетках. Смешна і прыкра, калі некаторыя маладзёны, і не вельмі, «адракаюцца» ад некалі любімага паэта. Але «імперская» крыўда, «імперскі» боль паэта — гэта не «боль» імперскага палітыка.

**Нішто сабе «ўласная пазіцыя», якую фармулююць чыноўнікі з Міністэрства культуры!**



«...Вашего хлеба, неба, нам, подавись мы жмыхом и колобом, не треба...»

Пуціну — трэба...

Гэтую «пазіцыю прэзідэнта» падтрымліваюць «дзеячы культуры Расіі»? Пазіцыю, якая да іх жадання, «каб супольнасць нашых народаў і нашых культур мела трывалую будучыню», не датычыцца ані з ніякага боку.

Нішто сабе «супольнасць» — праз прыніжэнне нацыянальнай годнасці, разбэшчаную прапаганду і дрэнна прыхаванае злачынства, то бок анексію чужой тэрыторыі...

Уся гэтая «падтрымка прэзідэнта» з'явілася ўжо пасля запісу згаданай «Размовы...». Але як прадчувалася — пытанне пра расійскую інтэлігенцыю ўзнікла зусім натуральна. У тым сэнсе, што, у адрозненне ад недасведчанага электарата, ачмурыць яе лепшых прадстаўнікоў Вялікай Хлуснёй амаль немагчыма...

Так, немагчыма.

Што, Алег Табакоў не здольны адрозніць прапагандысцкую лухту, якая памыямі льецца з дзяржаўных тэлеканалаў, ад таго, што адбываецца насамрэч?

Што, Уладзімір Співакоў так аглух, што ўжо не чуе фальшывасці пуцінскага, так бы мовіць, аркестра?!

Што, Павел Лунгін, які фільмам «Цар» вынес ці не самы суворы прысуд апрычніне і яе венцаносным завадатарам, не бачыць, як штодня адраджаецца сталіншчына?!

Між тым, што праўда — лепшыя прадстаўнікі, эліта, краса нацыі... Якое ж, па словах Аляксандра Сакурава, найшло на іх «страшэннае зацьменне»?

Здагадак, тлумачэнняў шмат — ад «імперскага мыслення» да страху згубіць дзяржаўнае фінансаванне сваіх тэатраў, аркестраў, музеяў... Заўважана, што амаль кожны з падпісантаў — той ці іншы начальнік...

Але зацьменне таму і зацьменне, што не падлягае спектраграфічнаму аналізу. Яно цалкам чорнае. І гэты колер мае генетычнае паходжанне — ад часоў, калі адных дзеячаў культуры ставілі да сценкі, а іншыя пляскалі ў далоні...

Вось такая «ўласная пазіцыя», якая нават і зместам, і формай нагадвае пратаколы допытаў, пад якімі следчыя НКВД вымагалі каліcь подпісы Ліхачова і Меерхольда...

Сёння, дзякуй Богу, за адмову ставіць подпіс у падтрымку ўлады не расстрэльваюць, а за подпісы даюць грошы і вешаюць ардэны. Але кары, сапраўднай кары, усё адно не пазбегнуць.

Свой першы журналісцкі досвед я набываў з нататкі пра сельскага настаўніка. Памятаю, як трымцеў, калі на дрыготкіх нагах нёс яе да першага намесніка галоўнага рэдактара першай у маім жыцці газеты. Праз некалькі хвілін нататка вярнулася да мяне з разадранай чырвоным алоўкам старонкай. Я не ведаў яшчэ, што слова «інтэлігент» было ў таго газетнага ваўкадава пад забаронай.

Што ж, расійская гісторыя пацвердзіла рацыю чырвонага алоўка, які раздзірае яе старонкі і выкрэслівае з рускай мовы слова «інтэлігент».

**P.S.** Пакуль я з адчаем намагаўся зразумець учынак адных дзеячаў культуры, з'явіліся іншыя, не менш знакамітыя. І звярнуліся з заклікам правесці Кангрэс інтэлігенцыі «Супраць вайны, супраць самаізаляцыі Расіі, супраць рэстаўрацыі таталітарызму».

Нарэшце...

*kamerton_41@mail.ru*



REUTERS

Некалькі тысяч чырвонакашульнікаў правялі ў Маскве 15 сакавіка шэсце «Сутнасць часу». Яны маршавалі пад чырвонымі сцягамі.




REUTERS

Ад 4 лютага ў Венесуэле адбываюцца пратэсты. Дэманстранты, абураныя пагаршэннем дабрабыту, дабіваюцца адстаўкі прэзідэнта Нікаласа Мадуры.




Выпуск газеты атрада №3 ВК-8 у горадзе Орша можна назваць эталонам беларускіх СМІ.



Мінчук пасадзіў на ланцуг ваўка. Звера знайшлі на падворку прыватнага сектара ў раёне Сухарава. Гаспадар дома расказаў, што пару ваўкоў пяць гадоў таму набыў у Расіі. Цяпер мінчуку пагражае штраф да 2,6 мільёна рублёў.



## Анекдоты і жарты

* * *

У Януковіча ў асабістым заапарку былі страусы, затое цяпер у Пуціна — цэлы былы прэзідэнт Украіны.

* * *

Пуцін сцвярджае, што «Самаабарона Крыма» — гэта не расейская армія... Заўтра ён заявіць, што Чарнаморскі флот — гэта ўсяго толькі пункт пракату крэйсераў, эсмінцаў і падводных лодак.

* * *

Нацбанк праінфармаваў пра стабілізацыю курса рубля: курс стабільна падае.

* * *

Калі Крым трэба аддаць Расіі, таму што там шмат рускамоўных, то Маскву трэба аддаць Таджыкістану.

* * *

Стала вядома, чаму Кабзон так падазрона ставіцца да Украіны. Калі ён быў малады, яго ў львоўскім метро злавілі байцы «Правага сектара», прымусілі есці сала і спяваць «Два колеры».

* * *

Кабаева абурана кажа сяброўцы: «Слухай, ну што за народ мужыкі. Нічога даверыць нельга. Я ж у Воўкі на 8 Сакавіка крэм прасіла, а не Крым! Цяпер баюся нават заікнуцца пра куртку-аляску».

* * *

Выхавальніца дзіцячага сада здагадалася, што шакаладныя цукеркі былі з каньяком, калі дзеці сталі мацюкацца і лаяць урад.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Пуцяводная ідэя.** Калі першы раз з грудзей беларуса-мужыка вырваўся кліч «Жыве Беларусь», у ім злілося ў адно і пачуццё свайго нацыянальнага я, і прабудзіўшаяся свядамасць, што ён — чалавек, роўны ўсім іншым, і захованае ў таемнай глыбіні душы жаданне волі і зямлі.

**«НН». №11-12. 1914.**

Рыгор Барадулін. **БНР**

БНР —
Бог, Народ, Радзіма.
БНР —
Быць надзеі ранішняй!
У змаганцаў перад вачыма
Беларушчыны сэрца паранenae.

Разгараецца на суравеях стагоддзяў
Бел-чырвона-белае полымя,
Кладкі палячы здрадлівай згодзе.
Вернасць і непахіснасць супольныя.

Рве свабода варожыя сковы,
Прэчыць крылы зграяў абскублыя,
Санцавеецца воблік вясновы
Беларускай Народнай Рэспублікі!

**«НН». №11. 2004.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 18.03.2014.
Замова №1008.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14011